Цана 75 грашоў.

# РОДНЫЯ ГОНІ

МЕСЯЧНІК ЛІТАРАТУРЫ Й КУЛЬТУРЫ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

1927. Май 1927.

КНІЖКА III. | АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Крывое Кола, 21. (Wilno, Krzywe Koło 21). | Падпіска на год. . 8 зал. На 3 мес. . . . 2 зал. Адна кніжка . . 75 гр.



МАКСІМ БАГДАНОВІЧ.

## Максім і Магдалена.

Гэй, пайду я ды па вуліцы
У тое поле за ваколіцу.
Ля ваколіцы і плот, і гарод,
Завіваецца хмяліначка.
Ды чаму-ж цябе, зялёную,
Градам-дождж‌ыкам ня выбіла?
Ты, хмяліначка вясёлая,
Раскудравая хмяліначка,
Загубіла буйну голаву,
Буйну голаву Максімаву.

— —

Максім у карчомцы гуляе,
Ён гуляе — крыж прапівае,
Да таварышаў сваіх выгукае:
„Піва-мёд у карцы налівай,
Каб лілося аж за край, аж за край;
Песьню гучную ямчэй завадзі
Ды цымбаламі падыгравай!"

— —

Гэй, як скрыкнуць, як утнуць гапака!
Толькі сьцены захадзілі у шынка.
Струны звонка вымаўляюць з-пад рукі,
Ёмкім дробам выбіваюць хадакі,
Іх сталёвыя падкоўкі зьвіняць; —
Ля парога людзі добрыя стаяць,

Падпяваюць, прыгавараваюць,
Ды Максіма ўсё пахваляваюць.
Ён сядзіць — не памалу п'е,
Пад цымбалы у далоні б'е,
І хмяльна-ж яго галава,
Мова дзіўная так-такава:

— —

„Магда, Магдачка,
Мая кветачка*) — пралесачка!
Не кахацца мне, хлопу, з табою,
Ваяводы старога дачкою.
Сёньні з войтам цябе заручаюць,
Ручнікі вынімаюць,
Русу косу тваю прапіваюць.
То ня траўка-павіліка расплятаецца —
Наша вернае каханейка канчаецца.
Ўжо ня будзеш гуляць, як бывала,
Цалаваць, як раней цалавала,
Выхадзіць у сад а паўночы,
Глядзець ненаглянднаму ў вочы.
Ты марцовага сьнегу бялей,
Броўкі — долі сіроцкай чарней.
Не забыць іх сэрцу ніколі,
Ня бачыць да веку патолі.
Лійся, піва, цячы, як вада,
Бо пала на сэрца нуда!"

— —

У хмялю Максім гавора, не чакае гора,
Ды пачула тыя словы шынкароўна Сора.
Ўзяла Сора, да палацу шпарка пабяжала**),
Ваяводзе а прыгодзе ўсё пераказала.
Гэй, як грымне ваявода у памост нагою:
„Налажы-ж ты, лядачуга, буйнай галавою!"
Толькі ўчулі тое слугі — зара пасьпяшалі,
Ланцугамі хлопу ногі закавалі,
Павялі на пляц кірмашовы,
На памост высокі сасновы.
Людзі добрыя ўкруг стаяць.
Ён ідзе—ня йдзе, супыняецца.
Белы ручанькі па баках вісяць,
Ногі борздыя вагаюцца.
Ды ня жаліцца да людзей Максім,
Толькі кажа ён аб цымбалы ім:
Хоча зноў пачуць тое граньнейка
У астатні раз,

---

*) правільна—красачка, краска, **) русыцызм, пабелр.—пабегла.

У сьмяротны час,
На апошняе са*) сьветам разьвітаньнейка.

— —

Вокам кінуць—цымбалы дасталі,
На памост, на высокі паклалі.
Устрахнуў Максім кудрамі—годзе плакаць, годзе!
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:

— —

„Не вятрыска са*) паўночы павявае —
Ціхі сон у камору ўступае,
Вочы мне стуляе, ацьмянжае.
То ня птушка у гнязьдзечку ўстрапянулася —
Маё сэрца улякнулася.
Сьнілась мне: я узьмежкам іду,
Поруч збожжа калыхаецца.
Поруч збожжа калыхаецца,
Буйнай, срэбнай расой асыпаецца...
Сёньні споўніўся той нядобры сон,
Сёньні споўніўся цераз дзевяць дзён:
Праз цябе, дзявоцкая краса,
Сьлёзы коцяцца, як буйная раса“.

— —

Ціха ўсё—толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць —
З болю сэрца разрываецца.

— —

Гэй, было-б табе, Максіме, не кахацца,
Да вяльможнае дачкі не заляцацца!
Устрахнуў Максім кудрамі—годзе плакаць, годзе!
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:

— —

„Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка пракраснае!
Ой, ад сонейка
Па зямлі цьвяты**) расьцьвітаюць,
Ад яго-ж яны і пасыхаюць.
А ты, сонца, сьвеціш,
Залатое, сьвятое,
І ня ведаеш тое“.

— —

Ціха ўсё—толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць —
З болю сэрца разрываецца.

— —

*) рус., мае быць—з'із., **) рус., пабел.—краскі.

Эй, было-б табе, Максіме, не кахацца,
Да вяльможнае дачкі не заляцацца!

— —

Устрахнуў Максім кудрамі—годзе плакаць, годзе!
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:

— —

„Мае дзетачкі, мае дробныя,
Вы наплачацесь, нагалосіцесь,
Бо ня стане у вас тадачкі!
Хто вас будзе галаваці, адзяваці
І ад цёмнай ночы укрываці?
Станеце вы, дзеткі, жабракамі,
Пойдзеце барамі-лугамі,
Ды гасьцінцамі-дарогамі.
А дарогі тыя без канца ляжаць, —
Без канца вам, дзеткі, гора горкае цярпець“.

— —

Ціха ўсё—толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць —
З болю сэрца разрываецца.

— —

А як сьмерцяй Максіма скаралі —
Рукі белыя да брамы прыбівалі,
Рукі белыя да брамы мястовай,
Галаву—да вежы вартовай,
Каб дажджы яму кудры мачылі,
А вятры-бы сушылі,
Каб крукі прылятали—вочы дзяўбалі,
Ўсе бы людцы пазіралі—ды не забывалі.

*Яраслаўлъ.*

---

НАТАЛЯ АРСЕНЕВА.

# Паралель.

Ціхі вечар, маркотны, ласкавы
Так памалу, памалу зыйшоў
І зьліліся у змрочнасьці лавы
Пад прысадай густых каштаноў.
Палеглі цёмна-сінія цені
Па завулках, па цёмных кутох,
Дзе дрыжаць і згасаюць праменьні
Ў нячышчоных даўно фанарох.
Запылалі агнямі лятарні
Над радамі бліскучых вакон
І прарваўся з блізкое кавярні

Неспакойнае музыкі тон...
Гаручковая сьмеласьць размовы,
Сьмех нэрвовы, адрывісты сьмех,
Голад шчасьця спрадвечны а новы,
Усьцяж жывое жаданьне пацех,
У прысадах цямнеючых лавы,
Гдзе купляюць на ноч пачуцьцё, —
Гэта—места спрадвечнае права,
Гэта—старага места жыцьцё...

— —

А далёка, далёка, далёка,
Гдзе аб лепшым сьніць польны прастор,
Гдзе жытá падняліся высока
Й звоніць рэзвых казёлчыкаў хор,
Гдзе туман сіняватай сьцяною
Закрывае што-раз сенажаць,
Гдзе так сумна над соннай зямлёю
Няшчысьлёныя зоры дрыжаць,
Гдзе памалу, маркотна, ласкава
Спавівае ноч нівы й палі, —
Ці ня там ёсьць спрадвечнае права,
Жыцьце вечнае маці-зямлі?

Хэлмна, 1927 г.

---

Я. БУКА.

## Пан над панамі...

Ня жылі Вы, бацька з дзедам,
Там дзе ўнук, ніколі...
Ён ня вашым пашоў сьледам,
Жыве як князь ў пакоі.
Слугі роям за ім ходзяць,
Як пшчолы за маткай;
На'т гуляць адзін ня ходзіць
І сядзіць за краткай.

Сьцерагуць яго мо лепей,
Як некалі цара,
На дварэ жаўнераў дзесяць
Ў калідоры пара.
А няхай яго чым скрыўдзяць,
Няхай чым зьняважуць:
Без яго к разбору прыйдуць,
Без яго й „пакажуць“.

Ўдзень і ўвечар сьвежа страва,
Ежа проста панска:
Рана чуць-чуць цёпла кава,
Але алеганска.

Сьпіць да шостае гадзіны,
Раньней... баронь Божа,
З такіх паноў ні адзіны
Ня рухне н'ат з ложа.

А слуга, хоць бі з гарматы,
Страляй пярунамі,
Не адчыніць раньней хаты,
Хоць стаіць з ключамі.

Мыцца можа так як дома
З квартай на падворак?
Не, ўжо гэта то вядома,
Хай яго паморак...

Ў хаце з міскі быццам качка
Галаву палошча,
А кашулю мые прачка
І гуляць ёсьць плошча.

Ну ні пан-жа над панамі
Што жыве ў пакою?
Можа роўня з кім?
Ці з намі ці хоць-бы з табою?...

---

ПАЛАЧАНКА.

# Казка парвалася...

За ракой на гары хата стаіць. Там Янку чакае Мар'яна. Вочы ў Мар'яны сінія быццам неба ў пагоду, косы быццам кужэль залацісты.

Яшчэ рана, будзе пары до...

Я яшчэ не зрабіў працы свае, Мар'яна, не закончыў справы, распачаў яе толькі, будзе пары до...

Бачу цябе праз сотні вёрстаў. Бачу: сядзіш ля вакна і тчэш кросны. Серабрыста-белая тканіна, даўгая, як шлях мой жыцьцёвы паўзе ў ставох. Бачу: вось устаеш і ставіш крыжык на сьцяне, бо дзень ужо скончыўся і ўжо бліжэй да часіны нашага спатканьня...

Сонца гасьне за лесам. Сьпі салодка, Мар'яна, заўтра ізноў дзень працы будзе.

Паглядзі, рукі мае дужыя, як з зялеза выкаваныя, вочы мае зоркія, як у зьвера ляснога, а сэрца мае б'ецца, як птушка ў клетцы на волю просіцца, і каханая мая пануе ў ім...

Працу маю распачаў я і давяду да канца.

Дзень панура заміраe. Дрыжаць бярозкі ад сьцюжы, да зямлі прыгібаюцца.

---

Стаіць за ракой на гары хатка, а ў ёй дзеўка тчэ кросны. Белыя рукі ня знаюць спачыну. Прыйдзе час — прыйдзе Янка. Не, ня борзда яшчэ, бо цяжкая праца ягоная, але будзе канец.

Вецер вые за вуглом, несупакойна лес шуміць.

Дрэме чакае сэрца дзявоцкае, а ў ім спачывае Янка.

Сонца схавалася за бор, цямнота спадае на хатку і векі дзеўкі прычыняюцца.

Вецер дзьме й стукае ў ваконца. Не, ня вецер гэта стукае, гэта Янка прышоў. Мар'яна, адчыні дзьверы!

Як вецер рванулася дзеўка, кінулася да вакна. Прышоў? Ня вытрываў?

Пацямнелі вочы пагодныя, як неба хмарай абложанае, у іх маланкі замігцелі.

Пусьці мяне, Мар'яна!

Адна часіна—даўгая вечнасьць. Пагасьлі агніў хмарных вачох. Моўчкі стаіць дзеўка.

— Яшчэ ня час!..

Рукі твае яшчэ моцныя, як зялеза, а сэрца тваё гарыць агнём. Маеш час, Янка, працу скончыць трэба. Ідзі, Янка!..

Як ціха на сьвеце! Толькі муха зьвініць у цямноце, гэта павук смокча яе кроў. Ціха на сьвеце. Імгла засьцілае вочы.

Ізноў стукае Янка? Ах, не, гэта беднае сэрца дзявоцкае стогне й жаліцца й просе вярнуцца Янку, а вусны кажуць: ідзі. Ціха.

---

Хата стаіць на гары, скрывіўшыся. Там дзеўка тчэ кросны, Янку свайго чакае. Сонейка веснавое ўстае, ласкава, як матка, грэе. Па руні раса дыямантамі рассыпалася.

Янка ідзе. Выйдзі, спаткай, Мар'яна! Дай руку сваю, дзеўка, бо сілы меней ужо ў жылістых руках здаецца дый сьвет цямнее ў ваччу. Памажы, Мар'яна, Янцы, гдзе ты?

Вецер дзьверы рашчыніў прыветна. Пуста ў хаце. Гдзе, Мар'яна? Рана?..

Не, ня рана, але...

...позна — шапочуць бярозкі плакучыя.

Авадзень гудзіць: позна!..

Позна, — скрыпнула старая хаціна.

Не дачакала свайго каханага. Мо' памерла? Не, другі прышоў, дужшы і з дужшым пашла дзеўка.

Ах, пагасла зорка пуцяводная! Сілы няма. Дамавіна ў сэрцы Янкі, у дамавіне дзеўка сьпіць.





Беларуская Гімназыя у Вільні.—Мастацкая майстроуня. З левага боку першы сядзіць б. кіраўнік. мастак Я. Драздовіч.

І. ДВАРЧАНІН.

# Максім Багдановіч.

**Жыцьцё й творства.** (Да дзесятых угодкаў сьмерці).

Дзесяць гадоў таму, 25 мая 1917 г. памёр у Ялце ў Крыме вялікі пясьняр Беларусі — Максім Багдановіч. Памёр маладым, 25 гадоў, уносячы з сабою надзвычайныя



М. Багдановіч (1892—1917).

надзеі ўсяе сьвядомае Беларусі. Памёр далёка ад краю, якому аддаў усе свае сілы й здольнасьці, памёр далёка ад людзей, якія яго любілі і якіх ён любіў. Сухоты забралі яго ад нас.

Пясьняр адчуваў гэтае паступовае патуханьне фізычнае, калі з сумам пяяў:

Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары...
Мо' і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары,

Бо ня тое сьведчыць маё сэрца,
Грудзі кволыя мае...
Кажа, што ня доўга пажыву я,
Што загіну без пары...

Яшчэ з большым сумам пяе ў другім месцы:

Даўно ўжо целам я хварэю
І хвор душой
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой.

Прадчуваньне сьмерці выказаў ён і ў іншых вершах, як „Безнадзейнасьць“, „Непагодаю маёваю“, як здаецца, і ў поэме „Максім і Магдалена“. Урэшце шмат чаго ў яго поэзыі атулена празрыстай хмаркай прадсьмяротнага суму.

Невялічкая кніжачка „Вянок“ у 98 вершаў, 80 вершаў, раскіданых па часопісях, 5 расказаў ды некалькі крытычных і публіцыстычных артыкулаў — вось і ўсё, па чым мы можам судзіць аб творстве поэты, але затое гэта пэрлы беларускай поэзыі. Ды гэта яшчэ і не азначае, што гэта ўжо ўсё, што напісаў М. Б. У прысланых Інбелкультам сьпісе твораў песьняра значыцца яшчэ 124 вершы, ня лічачы прозы, крытычных твораў у расейскіх і украінскіх часопісях. Калі прымем пад увагу кароткі век песьняра, то акажацца, што ня так ужо й мала ён нам пакінуў. Урэшце сіла ня ў лічбе, а ў якасьці.

Чым-жа дарагі нам пясьняр, памяць якога мы сягодня сьвяткуем?

Адказам на гэта мусіць быць разбор ягонага творства.

Прадстаўце сабе, што вы змалку ўвесь час жылі на вёсцы і нейкім чынам пападаеце ў места. Вас аглушае гоман, траскатня вулічнага руху, язды чыгункай, возьнікам, трамваямі; вас акружаюць асілкі - палацы; замест шырыні палёў бачыце цесныя вуліцы, замест дзікіх красак у палёх — клумбы й цьветнікі, дзе ўсё падрэзана, падгладжана, расьце ў парадачку, у радочку. Тое-ж самае з дрэвамі на бульварах: падрэзаныя галінкі, пабеленыя камлі, між імі вымеценыя, пасыпаныя пясочкам дарожкі. Падвойнае чуцьцё ахапляе вас. Усё гэта з няпрывычкі вас глушыць і душыць, але для вас адчыняецца новы, дасюль невядомы для вас сьвет, сьвет места, сьвет працы чалавечага розуму, сьвет культуры...

Вось такую перамену бачым мы пры пераходзе ад чытаньня твораў іншых нашых пісьменьнікаў да твораў Багдановічавых. Усе нашы пісьменьнікі выйшлі з вёскі, з сялянскіх хат. Вёска не валадае сяродкамі вялікай адукацыі, не дала яна гэтага й нашым песьняром. Багдановіч, наадварот, высокаадукаваны чалавек.

Калі ўзяць у рукі „Вянок“, то нам кінуцца ў вочы напісы перад кожным амаль з вершаў, выпісы з твораў іншых пісьменьнікаў (мотто). Нас зьдзівіць, што гэтыя мотто напісаны на розных мовах. Гэта паказуе, што наш пясьняр чытаў творы гэтых пісьменьнікаў на тэй мове, на якой яны пісаліся, і гэта ў вялікай меры сьведчыць аб яго адукаванасьці, бо значыць, што ён ня толькі чытаў у чужой мове, але і адчуваў усе тонкасьці й красу іх. Напісы знаходзім у італьянскай, лацінскай, францускай, нямецкай і іншых мовах. Апроч таго, М. Б. перакладаў з украінскае мовы. Есьць весткі, што ён перакладаў най-

вялікшы фінскі народны твор „Калевалу“. Магчыма, што ён знаў і гэтую мову.

Высокая адукаванасьць песьняра відаць і з самых твораў. Гэта таксама яшчэ відно з вонкавага выгляду твораў без засягненьня да іх унутранога зьместу. Іншыя нашы пісьменьнікі ужываюць усьцяж г. зв. клясычны верш па чатыры радкі і з азначаным чарадаваньнем націскаў у радку. У Багдановіча бачым сьвядомае ўжываньне ўсіх магчымых формаў сусьветнай поэзыі, пачынаючы з старых антычных (грэцкіх і лацінскіх) і канчаючы аж рознымі формамі народнай творчасьці. Ён гардзіцца гэтым, калі, перакладаючы вядомы твор Горацыя, кажа:

„Аба мне гаварыць будуць...
Што — першы стаў я складаць на эолійскі лад
У нашым родным краю песьні пад лірны звон.
Усе заслугі мае, Муза, з пашанай зьліч
І лаўровым вянком валасы мне пакрый („Памятнік“).

Ён сьвядома ўжывае: трыялеты, тэрцыны, кварты, рондо, пэнтамэтры, александрыйскі верш, октавы, сонэты і іншыя формы. Іншыя пісьменьнікі па творах Багдановічавых вучыліся ўжываць гэтыя формы. У вапошні час наш пясьняр усё штораз балей пачаў прызнаваць пяршынство формаў беларускага народнага творства, магчыма з думкаю вытварыць асобны род формы сусьветнай поэзыі („Мушка зелянушка і камарык насаты тварык“, поэма „Максім і Магдалена“ і шмат іншых). Наагул з 1915 году бачым у Багдановіча перавагу, калі ня вылучнасьць творчасьці з формамі народных твораў.

Можам сьмела цьвердзіць, што Багдановіч тварыў у такіх формах не таму, што яны адпавядалі ў той ці іншай хвіліне поэтычнаму натхненьню. Гэта наагул так. Але мусім падчыркнуць, што ён тварыў у гэтых формах поруч і дзеля іх самых. Ён уласьне г в а р ы ў с а м ы я ф о р м ы, каб паказаць іх на беларускай мове. Формы для яго былі самамэтай, Багдановіч тварыў, як кажуць, к у л ь т ф о р м ы.

Перш, чым перайсьці да ўнутранога зьместу твораў песьняра, ня можам мінуць і іншых уваг, што да формы й вымаганьня да іх самога М. Б. Да вонкавых ад'знакаў формы належыць яшчэ рыма (рыфма) і самая мова. У Багдановіча знаходзім, як адлітыя, сталёвыя, выпешчаныя рымы. Гэтак званых бедных рымаў у Багдановіча зусім мала.

Поэтыцкая мова ставіць таксама шмат вымаганьняў да сябе. Яна ня любіць зьбегу ў вадным месцы ані галосных (зьзяньне), ані зычных (плеоназм). Для мілагучнасьці патрэбна ведамае чарадаваньне іх. Тады верш чытаецца лёгка й плаўна, без застановак. Паглядзім хоць-бы першы верш у зборнічку нашага песьняра:

Чуеш гул? Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць.
Пад рукамі яго, разважаючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны зьвіняць.

Якая мілагучнасьць! Прыгледзьцеся — нідзе няма разам больш трох гукаў аднолькавай якасьці. Толькі ў трэцім радку „х... струн“. Але гэта патрэбна для насьледаваньня трэску соснаў. У іншых мясцох, дзе такога насьледаваньня няма, вельмі рэдкія прыпадкі зьбегу нават і трох гукаў аднолькавай якасьці:

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі,
Сінякрылы матылёк... і так амаль усюды.

Мова поэзыі, апрача гэтага, вымагае чысьціні, што да слоўніка. Часамі ў М. Б. сустракаюцца небеларускія словы, але трэба прыняць пад увагу тагачасную нявыробленасьць беларускае літэратурнае мовы наагул ды тое, што М. Б. вучыўся мову з кніг, ня маючы магчымасьці паглыбіцца ў народныя крыніцы. Тады дасягненьні і ў гэтым сэнсе трэба лічыць добрымі.

Яшчэ трошкі аб унутраных адзнаках формы. Поэта, каб стварыць перад чытачом поэтыцкі абраз, малюнак, — ужывае розных спосабаў. Мы ня будзем разьбіраць гэтых спосабаў, вядомых з падручнікаў стылістыкі. Скажам проста, што Багдановіч карыстаецца гэтымі спосабамі, як добры маляр-мастак пэндзлем. Дзеля таго яго поэзыя такая яскравая, красачная. Маленькія вершыкі — і шматфарбныя абразы. Паглядзім, якая багатая альлітэрацыя (насьледаваньне гукаў у прыродзе) у найлепшым з гэтага боку вершу „Завіруха“:

У бубны дахаў вецер дзьме,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе... і г. д.

А вось гул места:

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць,
Вір людзкі скрозь заліў паясы тротуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
І гараць аганьком вочы змучаных твараў.

У першым вершу чуем самую завіруху, у другім адчуваеш, што ты знаходзішся ў таўпе дзесь на Вялікай вуліцы ці на Юраўскім праспэкце. І так усюды; культ формы да канца. Сваё адношаньне да выпрацоўваньня формы сам поэта выразіў у некалькіх вершах. У вершы „Песьняру“ ён кажа:

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім, ён як звон зазьвініць, —
Брызнуць іскры з халодных каменьняў.

У вершаваным лісьце да В. Ластоўскага ён асуджае пагляд А. Пушкіна, які аддаў пяршынство спосабу тварэньня Моцарта перад Сальеры. Наадварот, М. Б. становіцца на бок другога, які ўласьне абрабляў свае творы.

Пярэйдзем-жа да ўнутранога зьместу твораў поэты. Калі, разглядаючы вершы з вонкавага боку, мы бачылі ў Багдановіча сьвядомае служэньне форме, то тут бачым перш за ўсё служэньне хараству, красе. Кожны поэта, ужо ў сілу свае поэтыцкай інтуіцыі, адчувае красу. Але Багдановіч робіць нешта большае: Ён служыць красе, стварае культ красы. Гэта найгалаўнейшая старана творчасьці нашага песьняра і найвялікшая ад'знака, акая выдзяляе яго між беларускімі поэтамі. Увесь захоплены чарамі красы З. Бядуля, краса беларускай прыроды ачаровуе Я. Коласа, але яны толькі адчуваюць гэтую красу, а Багдановіч сьведама ёй служыць. Але мы ня будзем задзержвацца над гэтым пытаньнем, якому пасьвячаны наступны артыкул А. Навіны, які найлепей знае творства Багдановічава і найлепей аценіў яго ў радзе крытычных артыкулаў. Мы даткнёмся іншых бакоў творства Багдановічавага.

Усе крытыкі адзначаюць, што Багдановіч быў ня толькі поэта, а яшчэ поэта-філёзоф. Мы паставілі разбор гэтага боку творства Багдановіча ў першую чаргу дзеля таго, што гэта зьвязана з формай яго твораў. Прыгледзімся ізноў да выгляду вершаў нашага песьняра. Усе яны амаль кароценькія, у некалькі радкоў. Трошку большыя— ужо поэмы. Пачаўшы чытаць гэтыя невялічкія вершы, абачым, што кожны з іх захапляе адзін які небудзь яскравы абразок у прыродзе і жыцьці і зьвязуе з ім такую-ж яскравую філёзофскую думку.

Такія невялічкія вершыкі, захапляючыя яскравыя абразкі, называюцца імпрэсыямі. Вось-жа М. Багдановіч поэта-імпрэсыяністы. Імпрэсыянізм паўстаў у Францыі на зьмену формам творства романтычнага (ідэалістычнага і рэалістычнага); ён выплыў наверх у сувязі з зьменаю ў грамадзкім жыцьці. Тады дасяг поўнага расьцьвету век машын, пары і электрыкі. Жыцьцё забіла шыбкім тэмпам. Чалавек ня мог угнацца за жыцьцём. Дэвізам людзей стала: „лаві мамэнт!“

У галіне мастацтваў першым адбіла новы пульс жыцьця малярства. Зьявіліся прыгожыя абразы, якія схоплюють яскравыя мамэнты. Новая творчасьць Манэ пачала зьбіраць

навакол сябе ў салёнах і на выстаўках шмат - лічную публіку. Зьявілася цэлая школа манэістаў-імрэсыяністых.

За мастацтвам пашла літэратура. Золя ў „Жэрміналі“, „Творстве“ і іншых карацейшых і даўжэйшых раманах адбіў гэтае новае жыцьцё. Але яшчэ ярчэй, яшчэ выразьней адбіў новую імпрэсыяністычную творчасьць у вершаваных абразкох Вэрлен (раней Бодлер, потым Мэлярмэ). Вэрлен зрабіў рэволюцыю ў літэратуры, як Манэ ў малярстве. У Нямеччыне блізка падыйшоў сюды Гайнэ.

Вось чаму ў Багдановіча мы бачым найбольш перакладаў з Вэрлена, вось чаму найбольш мотто бачым у яго з твораў названых пісьменьнікаў.

Поруч ствараецца і новая філёзофія, якая прытарноўваецца да новых умоваў жыцьця. Гэта філёзофія рэлятывізму. Нічога няма на сьвеце нязьменнага. Усё адноснае. Сталы толькі мамэнт, уражаньне. Галавою гэтага філёзофскага кірунку ёсьць Эвэнаріус. Эрнст Мах паказаў прыклад нясталасьці ў прыродных зьявішчах:

Багдановіч у сваёй поэзыі бязумоўна філёзоф-рэлятывісты, хоць з гэткаю думкаю прафэсара Пятуховіча не згаджаецца рэдакцыя час. „Полымя“. Багдановіч так часта думае аб сьмерці, аб марнасьці жыцьця:

„Жывеш нядоўга, чалавек,
Пераж[ы]ві-ж у момант век!“

кажа ён у вершы з тытулам першага радка.

Хлопчык выдзьмухуе на ганку з мыла бурбалкі, хапае іх рукою, а там астаецца слата („Сеў хлопчык...“). Ластаўка зрабіла гняздо, прыгожае гняздо, але зрабіла яго з бруду („Гутарка з паненкамі“). „Усё зьнікае, праходзіць, як дым“ („С. Палуяну“). Душа поэты спараджае дзіўныя вершы, але таксама прыгожа пяюць і жабы („Вы кажаце мне...“). Поэта ўзьбіраўся ўсё вышэй да сонца, але там зрабілася яму сьцюдзена („Мне сьнілася“). Мы сьпяшаемся жыць, напружаем усе свае сілы, але сьцежка вядзе да магілы, дзе нас дагнаў ціха паўзучы чарвяк. („Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог...“). На вадзе растуць раскошныя лілеі, але іх акружаюць плесьні і бруд. (Сонэт: „На цёмнай гладзі“). Гымн пяе жабаў хор красе, каторую зьявіла гразь луж („Рондо“). Астры ранніцай замерзьлі, але тут, як насьмех, паднялося сонца, цалуючы ўсіх („Астры“).

Гэта толькі яскравейшыя прыклады „Вянка“. Іх можна расьцягнуць на даўжэйшы рад, але і гэтага, думаем, даволі, каб характэрызаваць Багдановіча, як філёзофа - рэлятывістага.

Песьняра найбольш уражаюць контрасты (процілежнасьці) жыцьця й прыроды. Можна сьмела цьвердзіць, што амаль уся поэзыя М. Багдановіча ёсьць поэзыя контрастаў.

Ён усюды бачыць гэтыя контрасты, нясталасьць і ўсё гэта прыводзіць яго да думкі аб рэлятывізьме ўсяго.

Чаму гэта наш пясьняр прышоў да гэтых вынікаў?

Магло-б здацца таму, што ён быў нашаніўскім поэтам, якія ўсе ўсьцяж плакалі, праўда з іншых прычын. Ці-ж дарма ён так жаліцца:

О, чаму я стаў поэтам
Ў нашай беднай старане?

Але можна сьмела сказаць, што не! Гэта, магчыма, толькі пасіліла настрой яго ў гэтым кірунку. Наагул-жа Беларусь і адраджэньне беларускага народу, поруч з красою, былі можа адзінаю ўцехаю нашага песьняра. Гэта выяўляе яго, як поэту-грамадзяніна, патрыёта. Возьмем верш: „Даўно ўжо целам я хварэю“. Тут выказана такая надзея на родны край, на тое, што ён адзін можа вылечыць песьняра ад гнятучага яго смутку, што яна, гэта надзея, падобна да надзеі чалавека на тонучым караблі. Антэй паваленьі Гэраклам у пыл. Але, даткнуўшыся зямлі, ён падняўся ўраз. Так і поэта, паламаны жыцьцём, чакаючы магілы, прынік да роднай зямлі, якая ўлівае яму бадзёрасьць у слабнучыя жылы... І месца ў ёй адгэнуль няма ўжо жальбе („Калі зваліў дужы Гэракл“). Любоў да бацькаўшчыны ў Багдановіча ўсюды на першым пляне.

Але ён любіць Беларусь інакш, чым іншыя пісьменьнікі.

Хай іншы жаліцца старонцы, —
Я-ж сьлёзаў не лію, як вы,
Бо бачу . . . . . . . . . .
Я пад яе зімовай маскай,
Пад сьнегам бачу твар вясны...
І вее верш мой дзіўнай казкай,
І ясны ён, як зорак сны.

Клясычны ў гэтым адношаньні сонэт, ахвяраваны А. Пагодзіну. („Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі“). Тут якраз, у любові да Бацькаўшчыны і толькі тут М. Б. оптыміст.

Ён верыць у сваю Бацькаўшчыну, бачыць яе вясну вокам філёзофа-прарока. Ён пэўны, што як тое зярнё, якое праляжала тысячы гадоў, яна можа яшчэ буйна закрасаваць сьпелым коласам. Толькі часам у яго зьяўляецца пытаньне: „ці хопіць сілы ў беларускай інтэлігенцыі зварушыць гэта сьпячае мора, пакіраваць яго цячэньне ў належны бок? („Краю мой родны“, „Зразаюць галіны тапалі адну за другой...“).

Бачым, што і тут Багдановіч непадобны да іншых. І тут ён—поэта-інтэлігэнт. Для Багдановіча Беларусь „Зачара-

ваны край“. Гэта край лясуноў, русалак, вадзянікоў, зьмяіных цароў, край сымболю, мітаў і прыроднай беспасярэднясьці, край чараў і сноў, урэшце край прыгожай мінуласьці. З якой любасьцяй і веданьнем справы апісуе ён Беларусь старых часоў. Вершы „Летапісец“, „Перапішчык“, „Слуцкія ткачыхі“ і інш.—клясычныя ўзоры, да якіх яшчэ не даходзіў ні водзін з беларускіх поэтаў. Беларусь— гэта адзін дататні факт у думках Багдановічавых, да якога ён не прыкладае меркі рэлятывізму. Гэта яго ўцеха й надзея.

Мусім усё-ж тутака падчыркнуць, што Багдановіч любіць Бацькаўшчыну аднабакова. З вышыні інтэлігенцкага пагляду ён зачароўваецца ёю. Беларусь — ня край жывога прыгнечанага народу, які рвецца да волі, а нейкая цудоўная казка, водгук тых казак, якіх наўчыў Максіма яго бацька, зьбіральнік народнага творства. Сам Максім - царэвіч гэтай цудоўнай казкі. Ён не прыкмячае, што гэтая казка поўная драматызму, поўная вялізнага гора, поўная імпэту барацьбы. Ён гэтага ня бачыць, бо ён наагул ня знае вёскі. Але чаго мы можам вымагаць ад поэты, які чуе, як зоркі ўверсе дрыжаць ад ветру, які як пацеркі перабірае свае вершы, зьвяртаючыся да бога хараства. Гэта-ж яго ўся поэзыя ёсьць „Сомнамбул“, чароўны гіпнотычны сон.

Багдановіч — поэта места. Места, вулкі Вільні, мескі гул яскрава адбівае наш пясьняр. Але і тут пясьняр бачыць толькі зьверхні выгляд, бачыць толькі красу. Ён ня бачыць, што гэтай красою прыкрыты стогны галодных і крыкі змучаных пралетароў. Наагул соцыяльныя мотывы ня граюць ролі ў творах Багдановічавых. Селянін яго так эпічна спакойна лае аленяў, якія нішчаць яго дабрабыт („Па ляду ў глухім бары“). У палёх нашаму песьняру чуецца разам із стогнам сьмех. Але мусім адзначыць хоць даволі рэдкія мамэнты соцыяльнага разуменьня. Ён заклікае паглядзець у студню, бо гэта студня і днём і ўночы адбівае зоры („Вы панове“). Нашыя продкі, у барацьбе за жыцьцё, павырубалі лясы, і гэта прыклад для іх патомкаў, для нас. Ён з энтузіязмам выклікае навальніцу і цыклён, каб выцялі аб мора і зварушылі яго да дна, бо ён верыць, што тады мора выкіне з дна пэрлы. („Устань, навальніца“). Ёсьць яшчэ некалькі вершаў, выяўляючых яго соцыяльную веру. Багдановіч, бязумоўна, стаіць на баку беларускіх працоўных масаў. Але гора іх не абходзіць яго так глыбока, як пісьменьнікаў сялянскіх. Ён прадстаўнік міжклясавай інтэлігенцыі. Ён хоча пераступіць роў, аддзяляючы яго ад пісьменьнікаў сялянскіх. Ён бачыць у сабе нейкія дзьве душы, якія сіляцца зьліцца, як тыя дзьве хмары ўгары. Але з гэтага паўстаюць толькі сьлёзы — дождж. („Дзьве хмары“).

Але не павінны мы забывацца, што ўсё творства М. Багдановіча ёсьць прыгожая ахвяра свайму народу. Ён хоча гэты народ падняць да сябе, паказаць яму дзівы, якіх той ня бачыць, і на тым Яму слава.

---

Вышэй мы ўвесь час гаварылі аб вершах Багдановічавых. Але Ён пісаў і прозай. Вось маем некалькі расказаў: „Над морам“, „Шаман“, „Аб іконніку й залатару“, „Апокрыф“. Фактычна гэта тыя самыя вершы, толькі бяз рымы. Нават разьмер — або захаваны („Над морам“), або адчуваецца. У гэтых расказах перадэны тыя самыя думкі, у тых самых абразох і так сама плястычна, як і ў вершах. Асабліва цікавы ў гэтым адношаньні — „Апокрыф“. Гэта ёсьць запаведзі мастака-поэты, вялікага рафінаванага інтэлігэнта беларускага народу.

Багдановіч не задзержаўся на поэтычным творстве. Ён і крытык, і публіцысты, і нават піша рады па гаспадарцы. Ён піша ня толькі ў беларускіх часопісях, а і ў расейскіх, і ў украінскіх. І ўсюды ён — інтэлігэнт свайго народу, гарачы энтузіаст яго адраджэньня, усюды ён служыць свайму народу, усюды ён суцэльны, як сказаў яго бацька на вечары пасьвячаным памяці нашага песьняра.

Можам цьвердзіць, што гэту суцэльнасьць надаў Максіму ягоны бацька, які, будучы сам пэдагогам, узгадаваў свайго сына так, што ўся сьвядомая Беларусь можа быць яму ўдзячна. Бацька песьняроў, Адам Багдановіч, заслугуе нашай пашаны ня толькі, як бацька Максімаў, але і як адраджэнец найпершае пары. Ёсьць весткі, што ён быў адным з рэдактароў першае беларускае газэты „Гоман“, якая выйшла ў 1884 годзе. Потым ён займаўся зьбіраньнем беларускага народнага творства. Гарачы энтузыязм адраджэнца відзен у ім і цяпер, калі ён на тым самым вечары кажа: „Пятнаццаць гадоў я адарваў свайго сына ад бацькаўшчыны, але цяпер аддаю вам усё, што асталося пасьля яго сьмерці“. І тут-жа перадаў скарбы невядомых твораў Максімовых.

---

Дапоўнім разбор твораў біографіяй нашага пісьменьніка. Радзіўся ў 1892 годзе ў Менску. Жыў потым у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, дзе яго бацька быў гімназыяльным вучыцелем. У гэтых мястох, ён прайшоў сярэднюю адукацыю пад даглядам бацькі. У Яраслаўлі ён уступіў студэнтам у Юрыдычны ліцэй. Увесь час быў у цэнтры духовага інтэлігенцкага жыцьця Расеі. Згодна з заявай бацькі — пясьняр пазнаёміўся з беларускім словам на тры наццатым годзе жыцьця. Гэта былі беларускія казкі, якімі ён так зачараваўся. Неўзабаве пачаў і пісаць пабеларуску вершы, перасылаючы іх у рэдакцыю „Нашае Нівы“. Першы

верш яго „Над магілай“, перасланы з Ніжняга Ноўгараду, зьмешчаны ў № 1 „Нашае Нівы“ за 1909 г., значыцца калі яшчэ песьняру ня было поўных сямнаццацёх гадоў. З гэтага часу адна за аднэй пачалі зьяўляцца яго „Нізкі вершаў“ і іншыя творы. У 1913 годзе выйшаў вядомы нам зборнік вершаў „Вянок“. Песьняра ўвесь час цягнула ў Беларусь, дзе пабываў тут два разы: у 1915 годзе — ў Вільні і ў 1916 ў Менску, куды прыехаў ужо па сканчэньні ліцэю на сталае жыцьцё. Але ня доўга ён тут пажыў. Будучы хворы на сухоты, ён ня мог пераносіць надмерна цяжкое працы. Здароўе яго штораз горшала. Яго ўпрасілі паехаць у Крым лячыцца. 25 мая 1917 году яго ня стала.

---

Загінуў пясьняр чараў і сноў, адыйшоў у нябыцьцё царэвіч цудоўнае казкі. Яркім мэтэорам зьявіўся ён на беларускім небасхіле і зьнік, каб ужо больш не вярнуцца. Кароткае жыцьцё, але поўнае зачараваньня й смутку!

Але ўсё-ж не прапаў яго сьвет,
Ён пакінуў у душы нам сьвет.
Так свабодна так ярка пражыць,
Лепшай долі няма на зямлі.

„*С. Палуяну*“.

Закончым так свае ўвагі аб вялікім песьняру Беларусі яго-ж вершам, трошкі яго зьмяняючы. Магчыма, што няма лепшай долі на зямлі! Няхай-жа сьвет гэтае зары разальлецца па ўсіх хатах нашай Беларусі, няхай у душы кожнага з нас пакіне свой яскравы сьвет, сьвет, які астанецца вечна.

---

Канцовая ўвага: Пішучы артыкул, аўтар ня меў на мэце паглыбленьне студыяў аб М. Багдановічу, а хутчэй сыстэматызацыю іх, каб даць пэўны матар'ял для чытаньня лекцыяў лектарам провінцыяльных гурткоў асьветных, дзе гэтых матар'ялаў няма.

Літэратура: Антон Навіна: Нашы песьняры, 1918 г., стар. 46—57. М. Гарэцкі: Гісторыя беларускае літэратуры, 1924 г., стар. 324—328; Е. Карскій: Белорусы, т. III, кн. 3, стар. 313—327; А. Л.: Максім Багдановіч. („Наша Думка“, № 21, 27-V-927). Грамыка: Пясьняр сноў і чараў („Полымя“, № 3—4, ст. 109, 1923 г.); Пятуховіч: Максім Багдановіч, як поэта імпрэсіяністы („Полымя“, № 7—8, 1923 г., стар. 92—99); увагі аб „Вечары памяці М. Багдановіча“ 16-VI-923 г („Полымя“, 1923 г., № 5—6, стар. 156—7); Антон Навіна: Нязнаныя творы М. Багдановіча („Наша Будучыня“. 1923, № 1); Скарбы творчасьці М. Багдановіча (артыкул бяз імя аўтара, „Наш Сьцяг“ 1923 г. № 16); Аутару вядомы артыкул аб фармальных дасягненьнях у творчасьці М. Багдановіча, У. Дзяржынскага, здаецца у час. „Адраджэньне“ і успаміны В. Ластоўскага, надрукаваныя у вапошнім № „Крывіча“, але іх пад рукамі у часе пісаньня ня было.

---



Зьезд Т-ва Беларускае Школы Наваградзкага вокругу селета 3 красавіка.

АНТОН НАВІНА.

# Проблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча.

„Песьняром Чыстае Красы“ назваў аўтар гэтых радкоў Максіма Багдановіча, калі—першы спасярод беларускіх крытыкаў--наважыўся даць ацэнку „Вянка“ на страніцах „Нашае Нівы“ 15 гадоў назад. І гэтае імя, дадзенае тады нашаму незабытаму Служцы Красы, сустрэла агульнае прызнаньне і перайшло ў гісторыю беларускае адраджэнскае літэратуры.

Бо-ж і праўда: ніводзін з беларускіх поэтаў ня выявіў такой сьвядомасьці ў шуканьні красы, ня выявіў такога шчырага пакланеньня ёй, як Максім Багдановіч. І, творачы новую красу сваімі вершамі, Багдановіч у цэлым радзе сваіх твораў формулаваў свой пагляд на асноўныя, ніколі ня ўміраючыя, заўсёды актуальныя й жывыя проблемы красы й мастацтва.

Што-ж такое краса, што такое мастацтва?—Каб гаварыць аб паглядах Багдановіча на гэтыя проблемы, трэба перш самім сабе здаць справу з таго, як мы глядзім на іх, пад якім кутом гледжаньня будзем аналізаваць думкі нашага пісьменьніка.

---

Усё жывое існуе і прадаўжае ў бесканечнасьць існаваньне свайго роду і віду дзякуючы магутнаму інстынкту, які, злучаючы два розныя полы, робіць магчымым размнажэньне. Чым вышэйша ступень разьвіцьця данага віду, тым багацейшыя і тыя формы, у якіх выяўляецца гэны разродчы інстынкт. Да акту, які мае на мэце прадаўжэньне роду чалавечага, пабуджае сучаснага цывілізаванага чалавека нязвычайна зложнае, асаблівае пачуцьцё: гэта — любоў.

Але любоў далёка перарасла межы свайго пачатнага службовага назначэньня. Яна родзе гэтулькі цудоўных, захоплюючых усю нашу істоту настрояў і пражываньняў, што любоў сталася для нашае сьвядомасьці як быццам самамэтай, нечым непраўнальна вышэйшым за самае нашае існаваньне, за нашае жыцьцё--як адзінкі, так і ўсяго роду.

Краса, так багата й шчодра рассыпаная ўва ўсёй прыродзе, гэта — стымул, пабудзіцель да любові. Шматфарбныя крылцы матылькоў, хвост павука, які пераліваецца ўсімі калёрамі вясёлкі, гордая грыва лева, так сама, як песьні салаўіныя і токі глушцовыя, — усё гэта спосабы прываблiваньня другога полу, усё гэта — пабудзіцелі да любові. Тое-ж самае бачым і ў чалавека: ха-

раство цела ён ужо сьвядома стараецца павялічыць штучнымі аздобамі, і гэта сустракаем у найдаўнейшыя пэрыяды існаваньня чалавека на зямлі. Але не адна толькі краса фізычная грае гэткую ролю: мо йшчэ больш магутную прываблюючую сілу паміж рознымі поламі бачым мы ў духовых праявах чалавечага Я — у красе духовай.

У меру таго, як паняцьце красы пашыралася й паглыблялася, робячыся ўсё больш і больш зложным, з красой сталася тое самае, што і з любоўю. Бо-ж і краса ўтраціла сваю пачаткавую ролю — ролю службовую выключна адносна да любові й размнажэньня. Яна абняла ўвесь жывы і няжывы, матэрыяльны і нематэрыяльны сьвет і яго праявы. Чалавек пачаў шукаць і знаходзіць яе ўсюды. Яна сталася для сваіх адэптаў — самамэтай.

Але пачаткавая адзнака красы: буджэньне расплоднае сілы ўсяго жывога, — ня счэзла ў сувязі з гэтым. Наадварот: буджэньне нашых творчых сіл выйшла за межы так-званае фізычнае любові, абняло ўсе магчымыя кірункі нашага духовага самавыяўленьня, творчасьці нашага духа, нашае мысьлі. Так-званая эстэтычная эмоцыя, якую выклікае ў нас краса, і ёсьць ня што іншае, як від магутнага духовага ўздыму, аналёгічны з любоўным экстазам, ёсьць перадусім павышэньне ў нас так-званага жыцьцёвага тонуса. І ў гэтым — найбольш істотная і неад'емная рыса красы. Што не дае нам гэнага духовага ўздыму, што не павышае нашага жыцьцёвага тонуса, гэта — не краса! Сіла-ж павышэньня жыцьцёвага тонуса зьяўляецца запраўднай мерай эстэтычнае эмоцыі ад красы.

Такое разуменьне красы абыймае і найнавейшую працоўную тэорыю паходжаньня мастацтва: усялякае мастацтва, інтэгральную частку якога прадстаўляе краса, запраўды-ж мусіла і мусіць нам памагаць у працы, бо эстэтычная эмоцыя, якую дае нам мастацтва, павышаючы ў нас жыцьцёвы тонус, гэтым самым павышае і нашу здольнасьць да тварэньня — да працы.

Але такі ўплыў робіць краса ня толькі на таго, хто глядзіць на яе ці іншымі спосабамі ўбірае яе ў сябе: яна дае мо йшчэ больш багатыя эстэтычныя эмоцыі таму, хто яе творыць. І ўсялякае мастацтва — гэта ёсьць такое самавыяўленьне, у аснове якога ляжыць няўхільна элемэнт красы, ды якое дае эстэтычную эмоцыю і творцу, і таму, хто пазнае творства мастака. Дык з поўным правам мы можам паўтарыць словы выдатнага францускага мысьліцеля-эстэта М. Гюйо: „Адчуваць у сабе жыцьцё — вось аснова ўсякага мастацтва і ўсякае прыемнасьці. У роўнай меры дае здаваленьне і эстэтычна прыемна вонкавае выяўленьне ўнутранага жыцьця“.

Мы вывелі гэтае азначэньне красы й мастацтва, так-сказаць, генэтычным мэтадам, як найбольш рацыянальным пры разважаньнях аб зьявішчы, якое тварылася тысячалецьцямі. І з гэтым азначэньнем зусім згаджаецца пагляд Максіма Багдановіча на асноўныя проблемы красы й мастацтва.

У першым творы ў прозе — „Музыка", надрукаваным у „Нашай Ніве" ў 1907 годзе, Максім Багдановіч дае абраз магутнага ўплыву красы на душу чалавека. Як і Гюйо, наш поэта разглядае эстэтычную эмоцыю, як узварушэньне ўсяе істоты чалавека. Яно абыймае не якоесь адно чуцьцё, а ўсю душу, ды — залежна ад настрою — пабуджае дзеяльнасьць чалавека ў тым ці іншым кірунку.

... „Жыў на сьвеце Музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго граньні нуда, што аж за сэрца хапала...

„Плача скрыпка, льлюць людзі сьлёзы, а Музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласьней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачам сьлёзы: так і ўдэрыўся-бы грудзьмі аб зямлю, ды ўсё слухаў-бы Музыку, усё плакаў-бы па сваёй долі...

„А бывала яшчэ й так, што Музыка быццам вырастаў у вачох людзей і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, зьвініць рымка, бас як гром гудзіць і грозна будзіць ад сну і завець ён народ. І людзі падыймалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчэлі іх вочы"...

Так. Бо-ж эстэтычная эмоцыя выклікае „вырастаньне" як тых, у кім яна збуджана, так і таго, хто гэтую эмоцыю сваім мастацкім творствам выклікае. І затым так горача адгукаліся на граньне Музыкі людзі, што слухалі, і сам ён вырастаў у іх вачох.

У гэтым уплыве на ўсю духовую існасьць чалавека — сутнасьць красы.

Краса рассыпана ўсюды, — трэба толькі быць даволі чуткім на яе, трэба ўмець выкрываць яе. І наш Пясьняр дае яркі доказ гэтага.

... „На цёмнай гладзі сонных луж балота", між пачарнелых каранёў чарота, сярод плесьні і бруду, дзе „разводзіць гніль сьпякота",—расьцьвілі за сьнег бялейшыя чашачкі лілей. „Хоць там плыве парою сьлізкі зьмей, і ржаўчына ляжыць, як пазалота", — „а краскі ўсё-ж ня робяцца грязьней". — „Цьвятоў расістых чыстую красу" узгадавала „смуроднай жыжкаю" топкае багно...

Вось дзе вырасла краса! І Багдановіч заканчывае свой сонэт, у якім намаляваў гэты абраз, маліцьвенным заклікам,

„... каб з літоўнасьці стрымала
Тут сьмерць сваю нязвонкую касу“
— у імя вырастае з гнілі — красы.

У зграбным Рондо ізноў апісуе наш Поэта красу, каторую „зьявіла гразь луж“: „вада балот, стаўкоў, вазёр“ адбіла ў сабе частку зорнага неба. І хоць краса гэтая — толькі адбітак запраўднага хараства, якое родзе сьвятло,— Багдановіч ня можа моўчкі прайсьці міма яе, ня можа не ўвабраць у сваю чуткую душу гэты прыгожы абраз.

Але вышэй за гэныя абразы прыроды — краса духовая, якую носе ў сабе чалавек. І з асаблівай любасьцяй Багдановіч шукае яе і выкрывае там, дзе мо ніхто іншы і не прабаваў-бы яе шукаць. Тут мы павінны адзначыць два вершы Багдановічавы з цыклю „Мадонны“.

Праходзячы ўлетку вясковай вулкай, Поэта спудзіў незнарок маленькага хлопчыка, які кінуўся на ратунак да свае нянькі-сястрычкі—дзяўчынкі гадоў васьмёх.

„І вось, дабраўшыся, ў падолак разам з ей
З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй,
І, як схіляецца ад ветру верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку схілілася і, сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач,—зусім як-быццам маць!
І саліваліся ў жывы абраз ядыным
Той выгляд мацяры ды з воблікам дзяўчыны —
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю радзімаю красою.
І, помню, я на міг пахарашэў душою“.

Багдановіч у вобліку гэнае вясковае дзяўчынкі--„упэцканай і хілай і худой“ — дагледзіў тую высокую духовую красу,

„... што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі“.

І вось гэты црыпадкам дагледжаны ў вёсцы абразок, гэтая ўкрытая ў сялянскай дзяўчынцы духовая краса—так узварушылі Поэту, што ён лічыць апісаны прыпадак „лепшай страніцай у штодзёньніку жыцьця“ і верыць, што ў цяжкі час — як магутная падтрымлюючая сіла — гляне на яго поўны хараства воблік гэнае дзяўчынкі.

Так дзее запраўдная краса.

Такі-ж проблеск духовае красы ўлаўлівае Багдановіч і ў асобе Вэронікі, маладзенькай гэроіні поэмкі,названай яе імем.

Хто-ж і як можа выкрываць красу, якая ўтоена ўва ўсіх бадай праявах жыцьця?—На гэта, ведама, трэба быць

мастаком, але і мастаку краса не даецца так проста: і мастак можа выявіць красу толькі сьвядомай працай.

Ведама, запраўдны мастак мусіць мець у сабе—побач з творчымі здольнасьцямі — вялікае духовае багацьце, каб было што выяўляць у ягоных творах. „Пекна сьпяваюць і жабы“ — кажа ў адным вершу Багдановіч, гаворачы аб творчасьці поэты; але гэта — ня тая краса, ад якое—як кажуць—душа расьце ў чалавека. Сваю ўласную духовую красу, так сама, як і ўбірануюз вонкавага сьвету, мастак узьвялічуе сваей працай. І трэба думаць, што наш Поэта меў наўвеце перадусім самога сябе, калі ў ведамай сваёй „Эпістоле“ да п. Ластоўскага выступіў у вабароне Сальеры, прадстаўленага Пушкіным у вельмі благім сьвятле ў ягонай драме „Моцарт і Сальеры“.

„... здаецца мне, што тут
Сальеры атрымаў несправядлівы суд“,

—кажа Багдановіч і дае вельмі характэрны для яго самога аналіз творства Сальеры:

„Халодным розумам праняўшыся, натхненьне
Ён мусіў тым губіць,—так кажа абвіненьне.
Сальеры ў творчасьці усё хацеў паняць,
Ува ўсім упэўніцца, усё абмяркаваць,
Абдумаць спосабы і матэр'ял і мэту —
І горача любіў сваю сьвядомасьць гэту.
У творчасьці яго раптоўнага няма,
Аснова да яе—спакойная дума.
Але, але... Аднак, што шкодзіць тут натхненьню?
Прыемнае дае Сальеры уражэньне.
Падобны зьнічцы ён: у іскрах, над зямлёй,
Яна ўзразае змрок лукою залатой,
Гарыць, бліскучая, ўся у агні нясецца,
А ў глыбіні сваёй халоднай астаецца.
Уменьне да ігры Сальеры здабываў
Праз мерны нудны труд; ці спраўды забіваў
Ён гэтым талент свой, як бачна з думак драмы?
Адкажа йскрыпка вам. Стакатто, фугі, гаммы
Шмат год калісь на ёй Сальеры вывадзіў
І моцна йграньнем тым іскрыпкі зык зьмяніў.
Ямчэй яна гудзіць. Пявучых згукаў сіла
Праз доўгія гады яе перарабіла,
І тымі сьпевамі уся напаена
Навекі чулаю зрабілася яна.
Няўжо-ж душы жывой маглі-бы зыкі сьпева
У Сальеры не зьмяніць, калі зьмянілі дрэва?!
Не! Працай гэтаю сябе ён разьвіваў.
Сальеры—верны раб, каторы не схаваў
Свой талент у зямлю. Хай судны час настане, —
Спакойна Музе ён і проста ў вочы гляне,

I будзе за любоў да здольнасьці сваёй
Апраўдан Музаю і ўласнаю душой!"

„Так робіш ты, дума, і у поэта
Красьнейшым кожын твор. Прывет табе за гэта!"

Ня менш выразна выказаў Багдановіч свой пагляд на творчую працу мастака ў хораша стылізаваным на старадаўны лад „Апавяданьню аб Іконьніку і Залатару, людзёх мудрых і красамоўных, кнігалюбцам нейкім дзеля славы Божай ды размнажэньня дабра паспалітага выкладзеным". Між Іконьнікам і Залатаром у слаўным месьце Вільні ідзе гутарка аб тых навінах у мастацкай працы, што йдуць у Беларусь з Захаду,—у сувязі з маляваньнем Сальваторам Розай фрэскаў на сьценах царквоў полацкіх, аб чым ужо дайшлі весткі ў сталіцу. Іконьнік стаіць на пункце гледжаньня старое школы, якая маляваньне сьвятых абразоў за службу Божую ўважала, не на выкананьне, а на зьмест сьвяты ўвагу звaрачаючы. Залатар—паклоньнік поступу ў мастацтве.—„Думку, быццам ікона ўсягды вялікшую вартасьць за іншае маляваньне мае, я за несправядлівую мушу ўважаць",—кажа ён.—„Бо ня тое, каго майстар малюе, а толькі тое, як ён гэта робіць, толькі здольнасьць і ўлежнасьць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасьць надаваць". I, дастаўшы із скрыні дзьве срэбныя сьвечніцы, за прыклад іх падаў, гаворачы: „Роўную яны вагу маюць і з таго-ж самага срэбра адліты былі, але ўсё-ж такі адна з іх у сем кроць больш другой каштуе, бо аздоблена з умеласьцю надзвычайнай. Водлуг-жа таго, што ўмеласьць і здольнасьць тыя толькі ў выглядзе рэчы, або, як іншыя цяпер кажуць, у форме яе зьявіць можна, прызнаць мы мусім, што каштоўнасьць вырабаў прыгожых адно толькі праз красу іх форм узрастае, і толькі красою форм каштоўнасьць тую мерыць можна".

Так на творчай працы ўсё мастацтва сваё будаваў і Багдановіч, бо ня было ў ім тэй выбуховай творчай сілы, якой надзяліла прырода моʻ шчасьлівейшых за яго слуг Красы, што занялі першае месца на нашым Парнасе: Купалы й Коласа, каторым такназьдзіў лёгка ўсё даецца...

Што-ж дае чалавеку ўзамену за творчую працу, за творчы высілак і мукі тварэньня—твораная ім краса?

Максім Багдановіч у гэтым пытаньні рэзка разыходзіцца з англійскай школай эстэтаў другое палове XIX сталецьця (Спэнсэр, Грант-Альлен), якая зачатак красы бачыць у здаваленьні аддасягненае карысьці. Краса—па-за эстэтычнай эмоцыяй, якая павышае ў нас жыцьцёвы тонус,—не дае іншае карысьці. Вось як гаворыць аб гэтым

сымвалічна наш Поэта ў маленечкім, васьміradковым вершыку свайго „Вянка“:

Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку
І выдувае з мыла пузыры.
Вясёлкаю гарацць яны ў зіяньні ранку,
Узьлятаючы ў паветра дагары.

І, завaрожаны шматфарбнаю красою,
Са спрытнасьцю і хцівасьцю ката,
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А застаецца ў ёй—адна слата!

Хто не здаволіцца заварожаньнем ад красы, хто выцягне руку па нейкую карысьць, той і красу загубіць, і карысьці не дасягне. Такі сэнс вершыка...

Але йшчэ больш выразна выказуе Багдановіч свой пагляд на гэтае пытаньне — некалі такое спрэчнае (спрэчка паміж англійскай школай і францускай) — у сваім „Апокрыфе“, як-быццам запраўдным эвангельлі мастацтва.

... Хадзіў па зямлі Беларускай Хрыстос і з ім сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Было гэта ў час жніва, калі ўсе людзі цяжка працавалі ў полі. Дык ніхто не звярачаў на іх увагі.

„7. Толькі музыка, каторому цяпер ня было што рабіць, падыйшоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоньня— дзень працы і ўсе клапочуцца каля яе; адзін я нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: ня смуціся ў сэрцы сваім. Ці-ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму ня схіляй нізка галавы твае, і не хавай твар свой ад вачэй людзкіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты—лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: вось надыйдзе да яго гадзіна горачы, — і чым ён разважыць смутак свой, апрыч песьні твае? Так сама і ў дзень радасьці ён прызавець цябе.

10. І навучаючы яго казаў: пад песьні кладуць чалавека ў калыску і са сьпевамі-ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клопатамі поўна людзкое жыцьцё. Але, калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце-ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы ў багне. А ці-ж ня лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: Вучыцелю, у гэтай старонцы ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці-ж ня сьцісьнецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючых скарынкі хлеба, прыйдзе з песьняй сваёй?

14. I, адказываючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім, — няўжо-ж трэба, каб было яшчэ менш?

15. I, зьвярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: калі пяюць песьні ў вас?

16. Музыка-ж адказаў: пяюць на Каляды, на Запускі, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалы, у Пятроўкі, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і на хрэзьбінах, пяюць, дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вясельлях і на хаўтурах, і ў бяседзе і ў працы, і ў маскалі йдучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.

18. I прамовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песьню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай-жа ў песьнях будуць думкі добрыя і паўчаючыя, каб апрыч красы меўся ў іх і спажытак чалавеку.

20. I адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы.

21. I, наўчаючы іх, прамовіў: агляняцеся навокал! Ці-ж ня ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзрасьлі васількі.

23. I сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі-бы ўзрасьці на мейсцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я ня вырву з каранём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

25. Так казаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. I не падняў ён рукі на васількі.

26. Я-ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Бо на што каласы, калі няма васількоў?

27. I, кажучы так, пачуў Ён песьню жнеяк і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны-ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць: няма лепш цьвяточка над васілёчка"...

Такім мастацкім абразом высказаў Багдановіч свой пагляд на пытаньне аб карысьці ад красы.

Ясна, што, маючы задачай быць „спажыткам дзеля душы", даваць эстэтычную эмоцыю і гэтым выклікаць у нас рост душы,—краса ня можа слу-

жыць іншым багом. І мастаку зусім усё роўна, хто будзе карыстацца яго творам і заклятай у ім красой. Дык добра кажа Багдановіч вуснамі знаёмага ўжо нам залатара Антона Каржа: „Я, хрысьцянін ня згоршы ад іншых, рэчы свае выраблаючы, адно толькі красы формы пілную ды ня думаю аб тым, на што нанізкі залатыя мае пойдуць: ці то на аздобленьне фігуры Маткі Боскай, або піяка і распусьнік які на пакрасу сваю ўжываць іх будзе".

Як-жа —мо' хто спытаецца—пагадзіць гэтае выключнае служэньне красе з тым, што ў творах Багдановіча сустракаем і такія яркія грамадзкія—адраджэнскія матывы?— Ды вельмі проста: бо-ж мастацтва, як спосаб самавыяўленьня мастака, выяўляе і ўсе ягоныя імкненьні, парываньні, ідэалы. Грамадзкія матывы, заклікі, ідэалы могуць складаць зьмест мастацкага творства, могуць служыць магутным пабуджэньнем да тварэньня,—але ня могуць дыктаваць сваіх законаў красе. І мастацтва, якое—маючы перад сабой тыя ці іншыя грамадзкія мэты— забылася-бы хоць на адзін мамэнт аб тым, што істотай яго зьяўляецца буджэньне эстэтычнае эмоцыі,—утраціла-бы адразу і ўвесь свой сэнс, і сваю чарадзейскую сілу прымушаць мацней біцца сэрцы людзкія, і сваю ўладу над душамі ..

Чыстай красе, нікому і нічому не пакараючайся, з поўнай сьвядомасьцяй служыў Максім Багдановіч. І за тое, што праз усё сваё жыцьцё верным служкаю яеаставаўся, чэсьць і хвала сьветлай пямяці Яго!

Вільня, 12 студня 1927 г.

## Вечна жывыя нябошчыкі.

**Барух Сьпіноза** (1632—1677 г.).

Барух Сьпіноза—адзін з таго слаўнага груду (грамады) вялікіх рэфарматараў ці „рэвалюцыянэраў Духа", якія—на мяжы Новага Часу—новай рэлігійнай інтуіцыяй, новымі вольнымі спосабамі мысьлі й дасьледу—вызвалілі людзтва з духоўнае няволі Сярэднявечча.

Як ведама, у сярэднія вякі панаваў над чалавечымі душамі сумны ды цёмны, быццам хрысьцянскі, ідэал, які казаў людзём адрачыся ня толькі ад красы й шчасьця зямнога жыцьця, але нават—ад самога жыцьця, пераносячы запраўднае жыцьцё—на Неба, у лепшы загробны сьвет... Гэты, як кажуць, аскетычны ідэал быў пабудаваны на афіцыяльнай царкоўнай навуцы, якая вучыла, што гэты сьвет, разам з чалавекам, сам па сабе—няварты нічога, што „сьвет

ляжыць у Зьле“, што „чалавек, гэта — чартова судзіна“... Царкоўная навука вучыла, што Бог—Нешта зусім асобнае, вонкахсьветнае, што Ён стварыў сьвет з нічога, што чалавек сам ня можа й не павінен—ані зразумець ані пачуць Бога інакш, як толькі прыняўшы цалком — на сьляпую веру—усё тое, што кажа яму Царква... Гэткім чынам, „царкоўная навука“, якою й даўно ўжо спрытна завaладалі пануючыя клясы, у канцы стала проста праступна карыстацца „ідэалам адрачэньня ды пакоры“ дзеля таго, каб трымаць народ, як кажуць, „у чорным целе“,—у кабале ды цямноце... А датаго-ж, абвясьціўшы гэтую сваю навуку „Словам самога Бога“,—абсалютнай, вечнай ды нязьменнай праўдай,—Царква Каталіцкая гэтым самым спыняла назаўсёды ўсялякі рух чалавечае мысьлі, усялякі поступ, усялякі развой сацыяльнага й культурнага жыцьця людзкасьці.

Магутны ўздым новых творчых сілаў Жыцьця ў Эўропе, які ішоў з паўдня (з Італіі), так званае „Адраджэньне“, пачаў сьмяротную барацьбу проці гэтага забіўчага для жыцьця й поступу фальшыва хрысьцянскага ідэалу. У Адраджэньні запраўды адрадзіліся перад усім жывыя сілы новых народаў, адрадзіліся й тыя жывыя жаролы духоўных здабыцьцяў старавечнага грэка-лацінскага сьвету, якія былі прыдушаны Сярэднявечам.

Адраджэньне ўскрасіла ў чалавеку давер'е да прыроды, веру ў сябе, у свае сілы, у свой розум, у дабрароднасьць пачуцьця, праўдзівасьць розуму, магутнасьць волі, адрадзіла старавечную веру ў боскасьць прыроды, а перад усім прыроды чалавека...

Сьпіноза, завяршаючы ўсе гэтыя здабыцьці Адраджэньня, даў у сваёй філёзофіі сыстэматычнае абаснаваньне гэтага новага рэлігійнага, а побач з тым—абсалютна сьвецкага самапачуцьця й сьветапагляду чалавека Новага Часу. Сьпіноза сваёй асобай і сваім уласным жыцьцём даў нячуваны ў сярэднія вякі і нязвычайна харошы прыклад апраўданьня ды ўжыцьцяўленьня гэтага новага ідэалу „сьвецкага мудрыца“, якому яго філязофія забясьпечуе найвышэйшае асабістае шчасьце — сьведамую сілу, вольнасьць і незалежнасьць духа, пашану найлепшых людзей свайго часу і—магутны ўплыў на духоўны развой людзтва.

Асноўная думка Сьпінозы—у тым, што Бог—ня ёсьць нейкая Асоба, ці Дух, які жыве дзесьці на Небе, асобна ад гэтага сьвету, вонках жывой прыроды й чалавека, але—наадварот — жыве, як душа ў жывым целе, неразрыўна — у гэтым Жывым Сусьвеце. Бо-ж Бог і жывая творчая прырода—адно. Гэткім чынам, Бог ня толькі духоўна-рэальны, як Дух і Мысьль, але й матар'яльна-рэальны, бо ўсё, што мы бачым на сьвеце, усё гэта--часткі жывога цела

Бога-прыроды; а перад усім Бог, гэта — Творчая Прырода.

У чалавечым розуме Бог раскрываецца, як адзіны ў Сусьвеце розум Божы. Прырода знаходзіць у розуме сваё самапазнаньне; чалавек Розумам даходзіць да пазнаньня Бога, да самапашаны, да разумнае любові да сябе і да сябе падобных, да ўсяе Прыроды. Гэткім чынам, „Разумная любоў чалавека да Бога, гэта-ж любоў Бога да Самога Сябе".

Ясна, што з гэткага новага рэлігійнага сама-і сьветаадчуцьця Новага Чалавека выплывалі зусім іншыя ідэалы, зусім новы сьветапагляд, зусім новая сыстэма асабістага й грамадзкага жыцьця.

Галоўнай ідэяй Сьпінозы зьяўляецца, гэткім чынам, ідэя абсалютнага адзінства ўсяго Сусьвету, адзінства пануючых на ўсім Яго бязьмерным прасторы законаў ладу й розуму.

Гэтая асноўная ідэя Сьпінозава мела вялізарны ўплыў ня толькі на ўсю навукова-філязафічную працу наступных пакаленьняў, якая толькі далей і глыбей раскрывала гэтую вялікую праўду — у кожнай галіне Веды: ідэі Сьпінозавы, перад усім — яго гэтая асноўная запраўды рэлігійная інтуіцыя Бога-Прыроды сталі як быццам „эвангельлем Прыроды" для новае паэзыі. Дык ня толькі вялікія нямецкія філязофы, як Фіхтэ, Шэлінг, Гэгэль, Шлейермахэр, але й сам вялікі Гэтэ (найвялікшы нямецкі паэта) разьвівалі ды выяўлялі ў сваіх творах у новых формах ідэі Сьпінозавы.

Ідэі Сьпінозавы мелі вялікі ўплыў і на грамадзка-палітычную думку людзтва; падразаючы духоўнае карэньне ўсяго гмаху сярэдня-вечнага гаспадарства, яны далі новыя рэлігійна-філязафічныя падставы для новае формы грамадзка-дзяржаўнага ладу — вольнай дэмакратычнай рэспублікі. З Галяндыі, дзе жыў і пісаў Сьпіноза, яго ідэі найраней перакінуліся ў Англію, дзе іх уплыў у вялізарнай меры азначыў ідэолёгію Другой Рэвалюцыі, што здабыла свабоду веры, слова і г. д... З Англіі гэты „духова-вызвальны рух" пайшоў — ужо ў пастаці вялікага дасьледу ды перамогі Рэвалюцыі — у Францыю, адкуль францускaя „Асьветнасьць" і Вялікая Рэвалюцыя разьнясла ідэю Вольнасьці па ўсім сьвеце.

Бо-ж ідэя Вольнасьці, як ясна само сабой, цесна зьвязана з ідэяй боскасьці людзкое прыроды. Дык грамадзка-палітычны лад павінен быць перад усім пабудаваны на законах гэтае вольнае людзкое прыроды. Толькі тады ў гэтым грамадзянстве будзе жыць жывы Бог вечнае Творчае Прыроды, Бог шчасьця. Кожны грамадзянін—жывая частка грамадзкае Цэласьці — Рэспублікі; разумная любоў яго да свае Рэспублікі, гэта-ж быццам любоў Рэспублікі да самае сябе!

Сьпіноза зьяўляецца--у сувязі з сваім агульным сьветапаглядам—закладчыкам так званае „крытычнае школы“ багаслоўя, якая разглядае Біблію перад усім—як гістарычны помнік, уложаны ў розныя часы рознымі асобамі, але—зусім не тады дый ня тымі асобамі, як гэта кажацца ў самой Кнізе. Толькі ў XIX веку нямецкая багаслоўская навука пачала з вялікай удачай тасаваць гэтыя ідэі Сьпінозавы.

Вельмі зразумела, што ўсе гэтыя новыя й сьмелыя ідэі Сьпінозавы выклікалі проці яго страшэнныя перасьледаваньні ня толькі з боку свайго жыдоўскага духавенства, але ня меней і з боку хрысьцянскага. Толькі адносная свабода ў Галяндыі, дзе панавала пратэстанская царква, выратавала Сьпінозу ад страшнага лёсу тых ягоных сяброў, якія прабавалі шырыць вольную думку ў краёх, дзе панавала Каталіцкая Царква.—Напрыклад, італьянскі мысьліцель Джордано Бруно, што меў шмат супольнага з Сьпінозай у сваёй інтуіцыі адзіноства бесканечнага сьвету—бесканечнага Бога, быў—паводле прысуду рымскага Папежа спалены жывым на кастры (у 1600 г.). Пры гэтым, вельмі характэрнай была клясычная форма гэтага прысуду: Каталіцкі Касьцёл пастанавіў—„абыйсьціся з праступнікам проці веры лагодна і без праліцьця крыві“...—Гэта-ж значыла, што яго спаляць жывым на агні, адначасна молячыся аб збаўленьні яго душы ад улады дзьябала ды ад вечных мукаў...

Цікаўна, што жыд Сьпіноза якраз найбалей прычыніўся да таго, каб вызваліць запраўдную жывую ды здаровую рэлігійную думку з-пад магутнага, варожага да жыцьця й чалавека, уплыву старажыдоўскай —„тэократычнай“ (папрочту—клерыкальнай) традыцыі, якая ў канцы сярэдніх вякоў зусім запсавала запраўднае хрысьцянства, ператварыўшы вялікую й вечную ідэю Бога Сьвету, Любові й Розуму—у жудасны абраз „Бога“ — гневу, помсты ды ненавісьці, ператварыла Бога Жыцьця ў Бога сьмерці. А гэтым самым Сярэднявечча само сабе гатавала гібель.

Праўда сярэдня-вечнае рэлігійнае думкі ў тым, што для праступнай, грахоўнай душы Бог Любові й Радасьці павінен зьмяніць „выгляд“ абярнуўшыся да чалавека сваім другім жудасным тварам—гнеўнага Судзьдзі Імсьціцеля. Але спачатная абмылка Сярэднявечча ў тым, што кіруючыся балей „палітычнымі думкамі“ аб захаваньні перад усім і за ўсялякую цану „на вечныя часы“ ўлады духоўнага стану ўва ўсім сьвеце—сярэднявечная Царква, змушаючы чалавека ня любіць, не шанаваць, не цаніць усяго таго, што ўсё магутнейшым голасам, як голас самога Жывога Бога-Прыроды, вымагала да сябе любові й пашаны, рабіла чалавека

„вечным і бязвыхадным праступнікам“... А „даравацъ“ гэтаму праступніку—пэўна-ж на карысных для... улады царкоўнай ды сьвецкай варунках —мела „ад Бога“ ўладу адна толькі Царква. Новы маральна-рэлігійны ідэал, якога Сьпіноза ёсьць адным з найхарашэйшых апосталаў, ставіць чалавека ў зусім іншае палажэньне—перад тварам Бога-Прыроды.—Кожны чалавек, калі ён сам пойдзе шляхам тых вечных і боскіх Законаў Розуму й Этыкі (маралі), якія жывуць у нетрах чалавечай душы, не патрабуе ўсіх тых страшных нэгатыўных абразоў кары й помсты, якімі сграшыць Царква грэшнікаў: на гэтым пазытыўным шляху Дабра-Праўды і Хараства чалавек спаткае запраўдную волю, абачыць і харошы абраз сьветлага Бога Розуму, Любові й Радасьці. Ясна, што такі Сьветлы Бог ня толькі дазваляе людзём—любіць сваю чалавечую дый акружаючую яго Прыроду, дазваляе ім самым упраўляцца вольнымі законамі розуму ды шчасьця, але проста вымагае гэтага ад людзёў, як — першага абавязку свае праўдзівае рэлігіі.

Барух Сьпіноза быў сынам нябеднага гандляра-жыда ў Амстэрдаме (у Галяндыі). Бацька даў нязвычайна здольнаму сыну добрае ўзгадаваньне, якое пасьля бясспыннай працай над сабой завяршыў сам філёзоф. Сьпярша ён хацеў стаць рабінам, дык старанна вучыўся жыдоўскія навукі. Але хутка зразумеў усю пусьціню талмудычнай схалястыкі і адвярнуўся ад гэтае „навукі“. З гэтае працы Сьпіноза здабыў дасканальную веду Бібліі.

Не знайшоўшы здаваленьня для свайго шукаючага Праўды розуму ў старой літэратуры ў роднай мове, Сьпіноза кінуўся на вывучэньне іншых народаў. Якраз тады панавала ў Эўропе захопленьне клясычнай літэратурай грэкаў і рымлян, іх філязофіяй, іх гуманістычным ідэалам. Адзін з такіх высака асьвечаных гуманістаў—амстэрдамскі доктар Эндэ, стаў яго добрым прыяцелем і вучыцелем. Малады Сьпіноза ўвайшоў у гэтага Эндэ ў кружок найінтэлігэнтнейшых з людзей места, а яшчэ ў дадатак закахаўся ў яго дачцэ Кляры. Пасьля цёмнага сьвету Каббалы ды Талмуду малады Барух як быццам нарадзіўся нанова—нарадзіўся на сьвет, пачаўшы дыхаць вольным паветрам гуманізму.

Вольная філязофія Дэкарта, якая пачала з таго, што стала сумлявацца ўва ўсім чыста, апрача ўласнага розуму чалавека, дакончыла вызваленьне Сьпінозы ад усялякае мертвае традыцыі. Вывучэньне матэматыкі й навукаў аб прыродзе, якое пачало шырыцца тады, паставіла Сьпінозу на вышыню навукі яго часу.

Тады Сьпіноза пачуў у сябе сілы, каб—бурыць старую, фальшывую навуку, а тварыць новую. У выніку яго гутарак і твораў яго выганяе з свайго ўлоньня ды нават пра-

клінае царкоўным праклёнам жыдоўская воласьць Амстэрдаму ды нават падсылае нанятых забіўцаў, каб зьністожыць небясьпечнага ворага „старое праўды". Да таго-ж—асабістыя прыяцелі Сьпінозавы, адзін за адным, разьяжджаюцца з места, а пасьля і яму самому прыходзіцца ўцячы з роднага места—ад перасьледаваньняў жыдоўскае воласьці ды пратэстанцкай царквы. Яго першае й адзінае каханьне, Кляра, так сама „зраджае" яго выходзячы замуж за арыстакрата. Філёзоф астаецца адзін... Каб мець матар'яльную незалежнасьць, ён навучаецца дасканальна шліфаваць шклы да тэлескопа, што дае яму добры заробак.

І тады, вольны, незалежны, адзінокі—ува ўсім безгранічным Сусьвеце--запраўды-ж быццам сам-на-сам з Богам-Прыродай,--Сьпіноза аддаецца ўвесь сваёй Мысьлі. Усю тую нерастрачаную ў жыцьці любоў, якая ня мела ўдачы ў асабістым шчасьці з каханай дзяўчынай, ён неяк пераносіць—на ўсю Прыроду, на ўвесь Сусьвет, на ўсіх людзёў...—На Бога.

Гэта і дае такі сьветлы дух і нейкі — цёплы пах, напрыклад,--закаванай звонку быццам у сталёва-геамэтрычную форму яго—„Этыцы"... якая зьяўляецца галоўным яго творам, але выданым толькі па сьмерці аўтара. Гэта-ж дзеля таго, што першы яго самастойны твор—Багаслоўска-палітычны Трактат выклікаў страшэнную буру ў Эўропе.

Слава аб галяндзкім мудрыцу ідзе па ўсёй Эўропе. З усіх краёў прыяжджаюць вучоныя людзі пагутарыць з філёзофам, якога каталіцкая інквізыцыя не магла дастаць у адносна лібэральнай Галяндзкай Рэспубліцы.

**Ад Рэд.**: Рэдакцыя „Р. Г." ня з усімі паглядамі аўтара згаджаецца.

---

С. П.

# Да пытаньня аб асноўных прынцыпах навучаньня й узгадаваньня ў пачаткавай беларускай школе.

(Глянь кніжку другую „Род. Гоняў").

Падобна да фізычнае працы, і экскурсыі ў сыстэме школьнага навучаньня й узгадаваньня павінны заняць значнае месца. На вышменаваным першым усерасейскім зьезьдзе вучыцельства выказавалася думка, што экскурсыі павінны легчы ў васнову навучаньня ў пачаткавай школе. Найзручней і найкарысьней арганізаваць экскурсыі ўвосень і ўвясну—час нараджэньня, часткава росквіту і ўміраньня жыцьця ў прыродзе. Аб'ектам назіраньня ў часе, напры-

клад экскурсыяў у лес, можа быць агульнае жыцьцё расьлінаў і дрэваў, будова іх складовых частак (карэнь, камель, кара, лісьце, цьвет, плады, семя, пупушкі), лесавыя пароды, зарасьнік, травы, мох, грыбы,—умовы іх узрастаньня й значаньня ў агульным жыцьці лесу, карысьць лесу для чалавека, залежнасьць жывёльнага гаспадарства ад характару лесу і інш. Кожная экскурсыя мае ведамае заданьне, хаця і ня трэба, асабліва спачатку, абмяжоўваваць надта свабоду вучняў адносна прадметаў назіраньня. Вучні павінны быць уцягнуты ў найжывейшую дзейнасьць; найчасьцей вучыцелю ня прыйдзецца аб гэтым шмат клапаціцца... Вучні загадзя гатуюць патрэбнае для экскурсыі, у лесе яны зьбіраюць вызначаныя вучыцелям аб'екты назіраньня, далей сартуюць, робяць калекцыі і г. д. Вучыцель павінен паставіць кожнага вучня перад назіранаю зьяваю і хай гэта будзе не мімалётнае глядзеньне, а па магчымасьці ўсебаковае і ўважнае разгляданьне, аналізаваньне, экспэрымэнтаваньне, перанесенае потым з лесу ў клясу, складаючы там адумысловую працу. Але даючы такое ўзбуджэньне розуму, прывучаючы да аналізуючай й сынтэзуючай працы мысьлі, прывучаючы за кожнаю зьяваю жыцьця й прыроды шукаць яе прычыну і, такім чынам, формуючы здольнасьць да лёгічнага мысьленьня, экскурсыі даюць узбуджэньне й развой і ўсім іншым, бяз вынятку, псыхічным сілам і здольнасьцям вучняў. Тут ідзе ўзгадаваньне волі ці характару, бо ўвага ўвесь час скіравана на адзін прадмет, на адну мэту, якая абавязкава павінна быць дасягнута, ня гледзячы ні на якія перашкоды; тут ня меней узбуджаецца і выабражэньне, бо мусіш разлучаць і лучыць розныя абразы й элемэнты веды, камбінаваць іх у новых злучэньнях. Далей, тут узбуджаецца пачуцьцё эстэтычнае, моральнае, бо ня можна ані самым вучням ані іх кіраўніку не зьвярнуць, ляпей—ня **можна кожны разне зварочаваць** увагі на хараство прыроды, мэтазгоднасьць яе парадку ці ладу, якую палажыла бессумлеву якаясь Вышэйшая Сіла,—на закон моральны, які кіруе жыцьцём чалавека ў процілежнасьць да мэханічнай, сьляпой неабходнасьці, з якою разьвіваецца жыцьцё прыроды. Асаблівае значэньне дастае тут і тое, што экскурсыі робяцца грамадою, колектывам і такім чынам ідзе ўзгадаваньне пачуцьця грамадзкага. Напасьледак, экскурсыі даюць шмат і дзеля ўзбагачэньня й пашырэньня мовы, каторая дастае тут асаблівую красачнасьць, вобразнасьць і эмоцыянальнасьць. Ці ня маем мы права пасьля ўсяго гэтага сказаць, што праз экскурсыі, фізычную працу і г. д. ідзе **ўзгадаваньне ўсяго чалавека!**

Рамкі экскурсыяў не абмежаваны. Яны ладзяцца ўсюды, дзе цьвіце жыцьцё, дзе мае прытарнаваньне праца людзкая: поле, сенажаць, возера, рака, горы, даліны, рынак, вуліца,

кузьня, сьлясарня, цагельня, ганчарня, усялякая майстроўня, хвабрыка, гістарычныя мясцовасьці, помнікі і г. д. Ведама, увага зварочуецца толькі на найважнейшае, неабходнае. Асабліваю цану дастаюць экскурсыі, калі яны арганізуюцца паводле ведамага пляну, дзеля выяўленьня ведамае ідэі ці асьвятленьня ведамае галіны жыцьця.

Што датычыць сувязі экскурсыяў з кляснымі заняткамі, дык, гэтакая сувязь можа выяўляцца ў найразнас тайнейшых хвормах. Няма і ня можа быць такога прадметунавучаньня ў пачаткавай школе, такіх практыкаваньняў, падставай для якіх не маглі-бы балей-меней зьявіцца экскурсыі. На першай ступені вучні могуць самастойна друкаваць для чытаньня (пры помачы літараў разрэзнай абэцэды) і пісаць словы для абазначэньня прадметаў, якія назіралі падчас экскурсыі: гэта будзе дужа важна для сфармаваньня правільнага навыку чытаньня й пісьма—каб за кожным словам стаяў ведамы конкрэтны абраз. На другой - трэцяй ступені ўвесь падбор стацьцей на чытаньне і матар'ялу на лічэньне ці на пісьменныя практыкаваньні робіцца ў сувязі з экскурсыямі; а што лекцыі з географіі й прыродаведы ўмысьля тарнуюць да экскурсыяў—гэта само сабою ясна. Далей, ці выбар вершаў для навучаваньня на памяць ня можа азначацца тымі ўражаньнямі, каторыя вучні дасталі ў часе экскурсыяў? Тое самое можна сказаць і адносна лекцыяў рысаваньня, дзе вучыцель зможа яго выкладаць. Асабліва-ж можна зьвязаць з уражаньнямі на экскурсыях, з працаю ў школьным садзе, гародзе, на полі і г. д. вусную й пісьменную працу—на вышэйшай ступені пачаткавае школы—дзеля выпрабленьня навыкаў вуснае й пісьменнае мовы і самастойных пісьменных практыкаваньняў, якіх—да слова сказаць—дагэтуль зусім ня было ў нашай школе. Калі яшчэ самастойнае, вонкахкляснае чытаньне вучняў будзе хаця часткава кіравацца пытаньнямі, якія пастаўлены экскурсыямі, дык памысьнейшага рэзультату экскурсыяў трудна й жадаць.

(Канчатак будзе).

## Культурнае жыцьцё краю.

### Зьезд Т-ва Беларускае Школы Горадзенскага Вокругу.

10 красавіка ў Горадне ў залі жыдоўскага рамесьленага клюбу адбыўся зьезд сяброў Таварыства Беларускае Школы Горадзенскага павету. Дэлегатаў ад асобных Гурткоў было 38 чалавек.

На парадку дня былі пастаўлены наступныя пытаньні
1. Справаздача аб працы Галоўнае Ўправы.
2. Перавыбары Акружное Ўправы.
3. Арганізацыйныя справы.

Справаздачу аб працы Галоўнае Ўправы зрабіў сэнатар Уласаў. Затым сэкрэтар пазнаёміў сяброў з дзейльнасьцяй старое Акружное Ўправы. Ня гледзячы на цяжкія варункі, пры якіх вялася праца, Горадзенскі павет налічае: 45 Гурткоў Таварыства, 924 сябры, 10 бібліатэк і 1 хату чытальню. За час існаваньня Акружное Ўправы згуляна 19 спэктакляў на вёсках і ў Горадне. Сход пастанавіў гэтыя даклады, як ад Галоўнае так і Акружное Ўправы прыняць да ведама і надалей узмоцніць і пашырыць культурную працу.

Пасьля гэтага прыступілі да выбару Акружное Ўправы і Нагляднае Рады.

У склад Акружное Ўправы ўвайшлі: Пётра Сяўрук (старшыня), Клімовіч Язэп (віцэ-стар.), Кулакоўскі Зьмітрок (сэкрэтар), Кізевіч Піліп (скарбнік), Савашчэня Сьцепаніда (кандыдатка). У Наглядную Раду — Мышка Пётра (старш.), Паддубік Альжбета (сэкрэтар) і Краўцэвіч Язэп (кандыдат).

Па дакладах з вёсак пастанавілі наступны буджэт для Акружное Ўправы: на памяшчэньне пад Управу — 45 зал. у месяц, старшыні (разьездных) 20 зал., сэкрэтару 60 зал. і на канцалярыю 10 зал.; разам 135 зал. у месяц.

З цьвёрдым перакананьнем, вясьці барацьбу з векавечным ворагам народу — цемнатою, разьехаліся дэлегаты па вёсках.

Трэба адзначыць, што прысутныя на зьезьдзе дэлегаты ў працы зьезду выявілі сваю сьвядомасьць патрэбы культурна-асьветнае працы. Яны ўсе прывіталі заклік да ахвярнасьці на гэту працу і аднагалосна адклікнуліся на пажаданьне, каб усе сябры Т-ва ўнасілі акуратна сяброўскія складкі. Яны сур'ёзна аднясьліся да справы арганізацыі асобных устаноў Т-ва, як Гурткі, Народныя Дамы і бібліятэкі-чытальні. Можна сьмела спадзявацца, што ўсё, аб чым была гутарка на зьезьдзе, не застанецца прыпадкова толькі выяўленымі пажаданьнямі, а што ўсе сябры прысутныя на зьезьдзе, разьехаўшыся па вёсках, павядуць вялікую работу, апіраючыся на пажаданьні й пастановы Зьезду.

**Горадзенец.**

**Ад рэд.**: У чэрвіневай кніжцы „Родн. Гоняў“ пададзём фотографію Горадзенскага Зьезду Т-ва Беларускае Школы.



# Была ў маткі дачка...

## НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Запісаў Т. ТРЫЗНА ў Жодзішках Сьвянцянскага павету.







Аддала далёка за Дунай глыбокі,
Яшчэ прыказала, яшчэ прывялела
На сем гадоў ўгасьцёх нябыць.
Была я гадочак, была я і другі,
На трэці гадочак я зажурылася,
Да маткі ў госьці захацела,
Абярнуся малада рабой зязюлькай,
Ой ляту-паляту ў вішнёвы садочак,
Стану жалка кукаваці.
Стану кукаваці, к садом прылягаці.
Сады мае сады, сады зялёныя
Голасам разьлягаюцца.
А старшы брацетка па садочку ходзе,
Ён ходзе-гуляе, ён меціць страляці—
Хоча зязюльку забіці.
А за ім матуля свайга сынка просе:
„А мой ты, сыночку, а мой ты, сакалочку,
Ня бі рабой зязюлячкі:
Ня ёсьць то зязюля, ня ёсьць то рабая,
Ёсьць маё дзіцятка, а ваша сястрыца.
Гэта наша гаратніца“.
А калі зязюлька, то—шухы на лугі,
А калі сястрыца, наша гаратніца,
Просім шчыранька да хаты“.
Праз сені ішла, дробны сьлёзкі ліла,
Села за столікам, села абамлела —
Да матулькі прымовіла:
„Матуля, матуля, аддала далёка,
Аддала далёка за Дунай глыбокі,
Ды ня ў зьмірную сямейку.
Сямейка ліхая, дружок яшчэ горшы —
Няма з кім мне стаці з некім пагукаці
І вернага слоўца сказаці.

# З Беларускіх культурных арганізацыяў.

## Да ведама ўсіх Гурткоў і Сяброў Т-ва Беларускае Школы.

I.

**Дзесятыя ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча,** беларускага паэты-мастака, тварца найпрыгажэйшых формаў беларускага вершу адбудуцца ў гэтым месяцы, у суботу 28-га дня (ўгодкі прыпадаюць на 25 мая, але ўспамін перанесены на суботу 28 мая).

Уся Беларусь будзе памінаць дзень сьмерці вялікага беларускага песьняра і кожны ў каго цячэ беларуская кроў мусіць прылучыцца да гэтага памінаньня, а ў першую чаргу Гурткі Т-ва Беларускае Школы, Народныя Дамы й бібліятэкі-чытальні, што раскінены па ўсёй Заходняй Беларусі, павінны арганізаваць гэта памінаньне на мясцох. Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ў паразуменьні з іншымі беларускімі ўстановамі і асобнымі грамадзянамі зрабіла ўсё магчымае, каб толькі пайсьці на спатканьне мясцовым Гуртком і даць патрэбныя матар'ялы дзеля памінаньня. Гэтак рэдакцыя „Родных Гоняў" ня толькі згадзілася надрукаваць рэфэраты аб Багдановічу, але на просьбу Галоўнае Ўправы згадзілася нават раней выпусьціць № 3 „Родных Гоняў", каб яны маглі да 28 мая дайсьці да ўсіх Гурткоў Т-ва. Грамадзяне! Рэфэраты зьмешчаныя ў „Родных Гонях" будуць чытацца на сьвяткаваньні Ўгодкаў Багдановічавых у Вільні. Дык умейце-ж і Вы, Грамадзяне, выкарыстаць гэтыя рэфэраты і прачытайце іх перад сваім грамадзянствам. Ведама, можна чытаць такжа іншыя рэфэраты аб Багдановічу. Каб даць магчымасьць азнаёміць прысутных на сьвяткаваньні з творамі Багдановічавымі, трэба правясьці некалькі дэклямацыяў яго вершаў. А дзеля таго, што зборнік ягоных вершаў „Вянок" ужо разышоўся, зроблены крокі, каб да дня сьвяткаваньня выдаць другое выданьне „Вянка" і разасланць яго па Гурткох. Тое самае будзе зроблена і з патрэтам Багдановіча.

Абавязкам кожнага Гуртка будзе набыць „Вянок" Багдановічаў і патрэт ягоны. Дрэнная будзе тая бібліятэка, якая ня будзе мець зборніку вершаў Багдановіча, гэтых пэрлаў беларускае паэзыі і на сьцяне ў якой ня будзе красавацца патрэт песьняроў.

Дык Грамадзяне! Гатуймася ўсе да сьвяткаваньня дзесятых угодкаў Максіма Багдановіча.

---

II.

**У справе ўзаемаадносінаў паміж Гурткамі й Акружнымі Ўправамі і Гурткамі і Галоўнаю Ўправаю.** Да Галоўнай Управы Т-ва часта даходзяць лісты асобных Гурткоў з

месц з пытаньнямі, у якіх прыпадках Гурткі маюць зносіцца з Галоўнаю Ўправаю і ў якіх з сваёй Акружной Управаю. Разьмежаваньне гэтых узаемаадносінаў падробна цяжка прадбачыць, яно выявіцца ў працэсе самой працы. Але разьмежаваньне зносінаў у важнейшых справах можна прадбачыць ужо. Вось-жа ў зносінах Гурткоў, Народных Дамоў і бібліятэк-чытальняў з цэнтральнымі ўстановамі Т-ва трэба кіравацца наступнымі правіламі:

1. Уся дзейнасьць Гурткоў, Нар. Дамоў і бібліятэк вядзецца ў цесным кантакце й паразуменьні з сваёй Акружной Управаю (гэта знача з тэй Акр. Управаю, на тэрыторыі дзейнасьці якой знаходзіцца Гурток, Нар. Дом ці бібліятэка). Акружная Ўправа мае быць кіруючым цэнтрам свайго вокругу, які глядзіць за працай асобных установ Т-ва ў даным вокрузе, дае дырэктывы і патрэбныя выясьненьні што да бягучай працы, кантралюе дзейнасьць Гурткоў, Нар. Дамоў і бібліятэк, бярэ ад іх справаздачу аб працы і кожны месяц дае падробную справаздачу аб працы ўсіх установ Т-ва ў сваім вокрузе Галоўнай Управе ў Вільні. Адным словам Акружная Ўправа ёсьць заўсёдным злучом паміж Гурткамі, Нар. Дамамі й бібліятэкамі, што знаходзяцца ў вокрузе, і з Галоўнаю Ўправай у Вільні. Роля такая даецца Акружной Управе дзеля таго, што яна знаходзяцца ў блізкім кантакце з асобнымі ўстановамі свайго вокругу і можа дзейна й беспасярэдне супрацоўнічаць з імі, у той час як Галоўнай Управе ў Вільні прышлося-б весьці зносіны з гэтымі ўстановамі толькі пры помачы перапіскі.

2. Усе справы, што вымагаюць зносінаў з мясцовай адміністрацыяй як паведамленьні аб сходах, аб лекцыях, спэктаклях - вечарынах, легалізацыя Гурткоў, Народных Дамоў і бібліятэк-чытальняў праходзяць праз Акружную Ўправу, або ў цесным паразуменьні з ёю. Усё гэтае робіцца вось чаму:

а) Акружная Управа, будучы ў адміністрацыйным цэнтры, дае магчымасьць прадстаўніком сваім асабіста зносіцца ўва ўсіх справах із стараствам ці іншымі адміністрацыйнымі ўстановамі;

б) Акружная Ўправа мусіць быць у курсе справы працы асобных установ Т-ва свайго вокругу;

в) маючы заўсёдныя зносіны з мясцовымі адміністрацыйнымі ўладамі, прадстаўнікі Акружное Ўправы лепей азнаёмлены з усімі законамі й правіламі, што адносяцца да арганізацыяў, больш азнаёмлены з мясцовымі ўладамі і дзеля гэтага лепей умеюць праводзіць усе справы.

3. Беспасярэднія зносіны з Галоўнай Управай маюць Гурткі, Народныя Дамы і бібліятэкі-чытальні Т-ва ў справах датычачых іх працы ў тых паветах, гдзе не заложаны

яшчэ Акружныя Ўправы. Але ад часу залажэньня свае Акружное Ўправы ўсе справы скіровуюцца ў такую, а не ў Галоўную Ўправу.

4. Усе справы, што ня могуць споўніць Акружныя Ўправы, значыцца такія, што вымагаюць інтэрвэнцыі перад вышэйшымі адміністрацыйнымі ўстановамі, як Міністэрства і інш., перасылаюцца дзеля выпаўненьня ў Галоўную Управу, якая ў такім прыпадку выступае як кіруючы орган усяго Т-ва Беларускае Школы.

**Увага:** Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на факты надужыцьцяў. Усе дадзеныя аб надужыцьцях Акружныя Ўправы мусяць перасылаць у Галоўную Ўправу, якая зьбірае іх і робіць адпаведныя крокі перад уладамі і апублікове іх у прэсе.

III.

**У справе паведамленьняў аб сходах, лекцыях, спэктаклях і вечарынах.** Галоўная Ўправа Т-ва ў Вільні часта дастае пытаньні з месц, як дастаць дазвол на лекцыю, на спэктакль-вечарыну або на сход. Што тычыцца сходаў Гурткоў і лекцыяў, дык дазволу на іх прасіць ня трэба, а толькі паведаміць аб гэтым староства, як гэта сказана ў дадатковай інструкцыі Т-ва Беларускае Школы. Пры паведамленьні аб лекцыі—трэба заўсёды да паведамленьня дадаць і падробны зьмест лекцыі, а там дзе вымагаюць, дык і цэлую лекцыю на пісьме. Калі да часу, у якім мае адбыцца лекцыя, няма адмоўнага адказу, то лекцыю можна чытаць, але не адыходзячы ад зьместу, пададзенага Старасьце пры паведамленьні.

Дзеля спэктаклю-вечарыны трэба так сама падаць адпаведную заяву ў Староства і дадаць да яе падробную праграму спэктаклю, п'есу, што мае быць згуляна, вершы, якія маюць дэклямавацца і словы песьняў, калі на вечары мае пяяць хор Калі да азначанага на спэктакль часу ня будзе ад Старасты адмоўнага адказу, дык можна разпачынаць яго. Але гэтак робіцца ў тым прыпадку, калі спэктакль або лекцыя ладзіцца для сяброў Т-ва і дарма. Тады прысутнымі могуць быць толькі сябры Т-ва і кожны з іх павінен мець пры сабе сяброўскі білет. Калі-ж спэктакль або лекцыя робіцца і для іншых і платныя, дык трэба падаць просьбу старасьце аб дазволе на спэктакль ці лекцыю, прылажыць да якой трэба ўспомненыя вышэй даклады і ў гэтым прыпадку ўжо трэба чакаць спэцыяльнага дазволу ад Старасты, без якога пачынаць спэктаклю ці лэкцыі ня можна. Пры платных вечарох трэба плаціць адпаведны працэнт ад даходу валасьці або магістрату (калі справа дзеецца ў месьце). Усе такія дазволы маюць даставаць для Гурткоў Акружныя Ўправы, а калі якісь Гурток робіць

усё гэта на сваю руку, дык мусіць хоць паразумецца з Акружною Ўправаю. Толькі ў тых паветах, дзе няма яшчэ Акружных Управаў, Гурткі самі стараюцца дазволу або пры помачы Галоўнае Ўправы.

Пры выбары п'есаў на спэктакль лепш браць п'есы працэнзураваныя Камісарам Ураду ў Вільні (на іх стаіць спэцыяльны штамп).

IV.

**У справе прысылкі копіяў усяе перапіскі ўстаноў Т-ва з адміністрацыйнымі ўладамі.** Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ў Вільні мусіць ведаць аб адносінах мясцовае адміністрацыі да Гурткоў, бібліятэк-чытальняў і Народных Дамоў Т-ва, з аднаго боку, а, з другога боку, мусіць ведаць, у якой стадыі арганізацыі знаходзяцца гэтыя ўстановы. Дзеля гэтага трэба, каб усе ўстановы Т-ва на мясцох перасылалі копіі ўсяе свае перапіскі із старастамі, інспэктарамі і наагул з адміністрацыйнымі ўладамі. Дагледзіць за выпаўненьнем гэтага могуць найлепш Акружныя Ўправы, праз якія і праходзяць усе зносіны з адміністрацыяй на мясцох; яны й маюць выпаўняць гэтую вымогу Галоўнае Ўправы ў першую чаргу. Там дзе няма яшчэ Акружных Управаў, перасылаць копіі ўсяе перапіскі з адміністрацыяй у Галоўную Ўправу маюць Гурткі, Народныя Дамы й бібліятэкі-чытальні самі.

**Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ў Вільні.**

---

# Месячнік „Natio“.

„Natio“, месячнік нацыянальных „меншасьцяў“ у Польшчы (Беларусоў, Ліцьвіноў, Украінцаў, Жыдоў і Немцаў). Выйшаў № 1 за студзень і люты; 97 стар. у 4-о. Выдаецца ў 4-х мовах—польскай, нямецкай, француcкай і ангельскай. Часопіс мае заданьне інформаваць грамадзянствы Польшчы й заграніцы аб палажэньню нацыянальных „меншасьцяў“ пад Польшчаю. Ведама, што інформацыйны часопіс аб палажэньню няпольскіх нацыянальнасьцяў у Польшчы вельмі патрэбны. У цяперашні час жывых міжнародных зносінаў уплыў на палітыку і міжнацыянальныя адносіны маюць грамадзянствы навет малых далёкіх народаў; што-ж казаць аб уплыве вялікай, цывілізаванай і блізкой да нас Эўропы ды, хоць і далёкай, Амэрыкі. Але аб палажэньню ў нас інформуюць найчасьцей адны толькі Палякі, ведама, на сваю карысьць.

Адзьдзелы адных нацыянальнасьцяў у часопісу апрацаваны ляпей, другіх — гарэй. Адцемлю, што англіцкі

тэкст часопісу напісаны благой англіцкай моваю; Англійцам яго будзе цяжка чытаць. Карэктура англіцкага тэксту таксама нягодная, хоць і ўся карэктура, асабліва імёнаў, вымагала-б папраўы. Гэтак у беларускай хроніцы др. Б. Туронак названы ў трох тэкстах „Турок“, а ў францускім нат „Puzak“. Беларусаў, ведама, найбалей цікавіць адзьдзел беларускі. На жаль, ён мае значне заганаў. У хроніцы знаходзім весьці аб тых арганізацыях і здарэньнях беларускіх, з якімі самі беларускія сувыдаўцы „Natio“ ёсьць у бліжшых адносінах; аб іншых траха ня ўспомнена. Гэтак асабістая ці групавая прыязьнь і няпрыязьнь узяла верх над бесстароньнім інформаваньнем чужыні аб беларускім жыцьцю.

Апрача хронікі надрукавана яшчэ ў беларускім адзьдзеле інформацыйная стацьця „Беларусы, іх цяперашняе палажэньне палітычнае і імкненьні“, падпісаная паслом Ф. Ярэмічам. Магчыма, што стацьця гэтая шмат пацярпела ад таго, што мусіла быць вельмі кароткай. Дык, не звараваючы ўвагі на яе агульны выгляд, адзначу толькі няправільнасьці ў падаваных ф а к т а х.

На самым пачатку стацьці чытаем: „Беларускі Народ належа да радзімы ўсходне-славянскіх народаў“. Што Беларускі Народ належа да радзімы „ўсходне-славянскіх“, а ня проста славянскіх народаў, цяперака апрача Расейцаў блізу што ўсе сумляваюцца. Якія навуковыя довады змусілі п. Ярэміча прыхінуцца да расейскай філёлегічнай школы, мы ня ведаем.

Далей чытаем, што ў Зах. Беларусі ёсьць звыш 2 міліёнаў Беларусаў, пры гэтым палова з іх — каталікі. Запраўды Беларусаў праваслаўных і каталікоў у Зах. Беларусі ёсьць прыблізна аднолькавая колькасьць, але ўсяго Беларусаў у Заходняй Беларусі будзе ня „звыш 2 міл.“ а шмат балей. Давядзём гэта лічбамі. Як ведама, польская статыстыка 30. IX. 1921 г. ў Зах. Беларусі няправільная, пры гэтым гэтая няправільнасьць зроблена на нашую шкоду. Дзеля таго калі нават г э т а я статыстыка паказуе штось карыснае Беларусам, дык ужо ад гэтага адыймаць ад Беларусаў нічагусенькі нельга.

Паводле польскай статыстыкі 30.IX. 1021 і статыстыкі ў тых паветах Віленшчыны, што належылі да т. зв. Сярэдняй Літвы, праваслаўных у Віленскім вайводзтве — 261.426, а Беларусаў — 249.857 чал.; у Наваградзкім вайв. правасл. — 421.275, Белр. — 310.155; у Беластоцкім вайв. прав. — 197.407, Белр. — 119.402. У Палескім вайводзтве, апрача павету Сарненскага й Камень-Кашырскага, дзе Беларусаў няма, ува ўсіх іншых паветах 538.823 праваслаўных; калі ад гэтага адыймем 21.966 тых, што запісаліся Украінцамі (у Косаўскім пав. 6 чал., у Лунінецкім — 1602, Пружанскім — 112, Пінскім — 339, Кобрынскім 2224, Да-

рагічынскім 3693, Берасьцейскім—2744 і Столінскім 11.245), дык праваслаўных Беларусаў будзе 516 тыс. 857 чал. А тымчасам польская статыстыка запісала ўсіх Беларусаў на Палесьсю толькі 375 тыс. 218 чал. (у Косаўскім пав. 36.143, Лунінецкім 63.059, Пружанскім 30.107, Пінскім 97.062, Кобрынскім 16.923, Дарагічынскім 18.425, Берасьцейскім 54.828 і Столінскім 58.155). Дык усіх праваслаўных у Зах. Беларусі 1 міл. 396 тыс. 965 чал., а тымчасам усіх Беларусаў паводле тае-ж польскае статыстыкі — усяго 1 міл. 54 тыс. 636 чал.; значыцца праваслаўных налічана балей як Беларусаў на 342.329 і балей як налічыў праваслаўных п. Ярэміч на 396.965.

Цяпер, так сказаць „за адным гакам“ даведаемся, дзе падзела польская статыстыка гэных 342 тыс. з гакам праваслаўных Беларусаў. Паводле тае-ж польскае статыстыкі ўсіх Палякоў у Зах. Беларусі 2.197.303, а ўсіх каталікоў 1.860.987. Дык Палякоў балей як каталікоў на 336 тыс. 319. Значыцца ясна, што гэныя 342 тыс. 329 прав. Беларусаў былі запісаны да Палякоў. Крышку лічба ня зыходзіцца дзеля таго, што часьць прав. Беларусаў адыйшла да групы безназоўных — „іншых“.

Беларусы ня толькі праваслаўныя, але так сама й каталікі. Калі зьвернем увагу, які вялікі процант Беларусоў паказавала расейская статыстыка 1897 г. і якія прасторы абыймае цяпер Заходняя Беларусь, дык, будучы вельмі скромнымі, мусім прызнаць, што Беларусы складаюць 75 проц. усяго насяленьня Краю. Усяго насяленьня ў Зах. Беларусі *) 3,795,418; вылічыўшы з гэтае лічбы 75 проц., дастанем колькасьць Беларусаў 2 міл. 846 тыс. 563 чал. Лічба гэтая, ведама, ня зусім чыста точная, але прыблізная, бо тачнюсенькая яна была-б тады, калі-б зрабіць бесстароньняе сьпісаньне насяленьня. Гэтая лічба меней за каторую ня можа быць Беларусаў, але можа быць балей; агульна кажучы, Беларусаў у Зах. Беларусі каля трох міліёнаў чал. І запраўды, кожны бесстароньні чалавек згодзіцца, што там, дзе нямаш Ліцьвіноў, усё хрысьцянскае (а таксама й мусульманскае) насяленьне, з выняткам асаднікаў і прыяжджомых ураднікаў,—беларускае.

З іншых няпраўдзівых фактаў у стацьці Ярэмічавай адцемлю яшчэ, што „Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў“, „Вайсковая Беларуская Рада“, „Вялікая Беларуская Рада“ існавалі ў Менску ў 1917 г. ня побач з „Беларускім Нацыянальным Камітэтам“, але ўзьніклі на руінах яго. У беларускіх вёсках ня „сотні школаў“ (польскіх), а тысячы. Паводле п. Ярэміча „зямельная рэформа ў Польшчы праведзена“, хоць яна яшчэ ўсё толькі пачынае праводзіцца.

**Д.-М.**

*) пав. Сарненскі й Камень-Кашырскі да Зах. Беларусі не залічаю.

# Культурныя навіны.

**Аб Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні.** Сьвяцейшы Сынод Праваслаўнай Аўтокефальнай Царквы ў Польшчы пастанавіў зрэарганізаваць Віленскую Праваслаўную Сэмінарыю так, як арганізавана Праваслаўная Сэмінарыя ў Крэмянцы. У Віленскай Сэмінарыі з прычыны дзьвюх уладаў — рэктара, як прадстаўніка духоўнай улады, і дырэктара, як прадстаўніка ўлады сьвецкай, — узьнікае толькі непарадак. У Крэмянцы гэтага нямаш; тамака ёсьць рэктар і, як памачнік ягоны, інспэктар. Крамянецкая Сэмінарыя ўтраквістычная — палова лекцыяў паўкраінску і палова папольску. Праваслаўнае духавенства спадзяецца, што вышменаванымі паправамі Сэмінарыя, з аднаго боку, прыблізіцца да праваслаўнага беларускага грамадзянства й народу, а, з другога боку, прыйме духоўны выгляд. Цяпер, як ведама, Віленская Сэмінарыя прадстаўляе сабою якуюсь дзівосную польскую гімназыю (усё вучэньне папольску), каторую вернікі праваслаўныя за сваю не прызнаюць. З гэтае прычыны колькасьць вучняў у Сэмінарыі з кожным годам меншае. Сёлета ў першай клясе ўсяго шэсьць чалавекаў! Цікаўна, як да рэарганізацыі Сэмінарыі аднясецца польская ўлада.

**З пастановаў Камісыі дзеля апрацаваньня праграмы беларускіх пачаткавых школаў.** Каля году таму назад па загаду Міністэрства Асьветы Віленская Школьная Куратория арганізавала Камісыю дзеля апрацаваньня праграмы беларускіх пачаткавых школаў урадовых. Камісыя складаецца з трох чалавекаў: двух прадстаўнікоў Віленскай Куратарыі — Станіслава Любіч-Маеўскага, дырэктара польскай урадовай гімназыі ў Вялейцы (паветавай), і Жыгімонта Абрамовіча, вучыцеля польскай урадовай сэмінарыі вучыцельскай у Вільні, ды прадстаўніка Школьнай Куратарыі Беластоцкай — Караля Лазінскага, вучыцеля ўрадовай польскай гімназыі ў Наваградку. Адзін толькі дырэктар Ст. Любіч-Маеўскі сьвядомы Беларус, але ня прыймае актыўнага ўчасьця ў беларускай працы, два іншыя сябры Камісыі ўважаюць сябе за Палякоў (Ж. Абр. належа да польскай арганізацыі нацыяналістычнай—„Macieży szkolnaj"). Усе тры сябры Камісыі — польскія ўраднікі.

Цікаўна даведацца прынамся некаторыя настановы гэтае Камісыі.

Дзеля таго што беларускае школьства ўходзе ў стадыю арганізацыі — Камісыя ліча патрэбным, каб быў утвораны пры Віленскай Школьнай Куратарыі праграмна-школьны Беларускі Адзьдзел з загадчыкам (начэльнікам), рэфэ-

рэнтам і канцылярскай сілаю і каб пры Куратарыях Беластоцкай і Палескай былі ўстаноўленыя адпаведныя беларускія рэфэрэнты, што былі-б у кантакце з вышменаваным адзьдзелам.

Камісыя зьвярнулася з просьбай, каб было асыгнавана тысяча залат. на куплю беларускіх кніг і ўтварэньне бібліотэкі пры вышменаваным адзьдзеле.

Да ўтварэньня адзьдзелу пры Віленскай Куратарыі Камісыя ліча канечне патрэбным, каб была арганізавана заўсёдная камісыя да справаў беларускага школьства; камісыя гэткая мела-б складацца з 5-ёх асобаў і склікалася-б пэрыёдычне.

Камісыя думае, што тыя вакацыйныя курсы вучыцельскія, на каторых будзе выкладацца беларуская мова, мелі-б быць у Віленскім Школьным Вокрузе арганізаваны ў Вільні, бо тутака можна лёгка карыстацца бібліотэкамі і некалькімі беларускімі кнігарнямі і сама духовая атмосфэра Вільні была-б вучыцялём карысная.

**Праграма вучэньня.** За норму ўзята праграма ўрадовых школаў польскіх.

Беларуская мова мае быць ува ўсіх адзьдзелах, пачынаючы ад першага.

Польская мова пачынаецца ў трэцім годзе вучэньня і мае адгэтуль колькасьць гадзінаў роўную мове беларускай.-

Агульную колькасьць гадзінаў Камісыя захавала бяз зьмены ў кожным адзьдзеле.

У школе сямікляснай зьменшаны час вучэньня з прыроды на 1 гадз., з гісторыі на 2 гадз., з пяяньня на 5 гадз і з ручных работаў на 7 гадзінаў.

Камісыя апрацавала падробязны расклад гадзінаў для школы 7 кл., 4 кл. і 2 кл. (з асобным вучэньнем у вадзьдзеле 1). Для аднакляснай школы Камісыя не знайшла магчымасьці ўкласьці праграму, з прычыны асаблівай труднасьці вучэньня дзьвюх моваў асноўных. Але, прыймаючы пад увагу факт існаваньня аднаклясных школаў, як пераходных, Камісыя запрапанавала ўвесьці ў гэтыя школы першую палову праграмы школы двукляснай (адзьдзел I, II і III).

Вучэньне ўсіх прадметаў мае быць у мове беларускай, апрача мовы польскае, гісторыі (у адзьдз. V, VI і VII) і геграфіі ў адзьдзеле VI (ад паўгада) і VII.

Проці жаданьня Беларускага грамадзянства й народу абэцэда мае быць вылучна лацінская. Дапусьціць кірыліцу, хоць часова, Камісыя ўважае немагчымым.

Камісыя ўважае, што патрэбныя падручнікі можна будзе прыгатаваць у працягу паўгада „пры помачы сьцягу мясцовых пэдагогаў беларускіх, каторыя ахвотна возьмуцца

за гэтую працу паводле показяў Міністэрства й Камісыі, калі будуць ведаць, што праца іхняя не прападзе".

Усе пастановы Камісыі маюць дарадчы характар, Міністэрства можа Камісыі не паслухаць і ўсё зрабіць пасвойму.

**Хто вуча беларускую мову.** Вучыцелем беларускай мовы ў польскую вучыцельскую сэмінарыю ў Шчучыне назначаны якісь Нікіпарчук, каторы скончыў расейскую пачаткавую школу (тры гады вучэньня), з прыходам Палякоў быў вучыцелем у пачаткавай польскай школе і вучыўся на вакацыйных курсах вучыцельскіх. Мы ня ведаем, хто назначыў Нікіпарчука ў Сэмінарыю—Беластоцкая Школьная Куратороыя ці Віленская, да каторай нядаўна прылучаны Беластоцкі Школьны Вокруг; у кожным прыпадку Віленскі Школьны Куратар і Візытатар сэмінарыяў п. Мінцэр за гэта нясуць адказнасьць.

**Новы загадчык пачаткавымі школамі.** Замест благое памяці п. Стэцкевіча загадчыкам адзьдзелу пачаткавых школаў Віленскага Школьнага Вокругу назначаны п. Пагарэльскі, каторы дагэнуль быў загадчыкам гэткага адзьдзелу ў Польшчы ( Конгрэсоўцы). Новы загадчык за месяц свайго быцьця ў Вільні нічым свае працы ня выказаў.

**Угодкі Казімера Сваяка.** У Вільні ўрачыста ўспаміналі першыя ўгодкі сьмерці беларускага поэты Казімера Сваяка (кс. Кан. Стэповіча).

У нядзелю 8-га мая па паўдні вялікая грамада людзёў пайшла на могілкі (Роса) і тамака над могілкай Сваяковай пяяла рэлігійныя песьні беларускія і гымн „Не пагаснуць зоркі ў небе". Пасьля адведзінаў могілкі Сваяковай забраныя пайшлі на могілку іншага беларускага пісьменьніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) і таксама ўшанавалі яго памятку пяяньнем беларускіх песьняў. Беларускія песьні на Росе рабілі вялікае ўражаньне на ўсіх даведавальнікаў могілак. Таго-ж дня быў пасьвячаны вечар памятцы Казімера Сваяка. Быў прачытаны рэфэрат аб жыцьцю й творстве Сваяковым, хор пяяў беларускія песьні і была дэкламяцыя твораў Сваяковых і пасьвячаных Яму.

**Дзесятыя ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча** (умер 25 мая 1917 г.) гатуецца ўрачыста ўспамінаць беларускае грамадзянства Вільні і ўсяго краю. Усюды маюць быць прачытаны рэфэраты, будзе дэклямацыя ягоных вершаў і інш. Гэтыя вялікія „дзяды" ў Вільні і блізу што ўсюды будуць у суботу 28 мая, хоць, ведама, з розных прычынаў могуць быць так сама крыху раней або пазьней.

**„Сялянская Ніва" ня сьціхае.** Наш разгляд „рэцэнзыі" газ. „Сял. Ніва" вельмі не падабаўся „Рэцэнзару" гэтае газэты, які з упорнасьцяй, дастойнай лепшай долі,

цьвердзіць усьцяж, што яго „крытыка—лёгкая ды бесстаронная“, дадаючы да таго-ж рад недарэчных інсынуацыяў. Падчыркуем яшчэ раз, што адзначылі ды разабралі гэтую „крытыку“ зусім не з жаданьня палямізаваць з аўтарам, або з газэтай, але выдучна як адну з праяваў някультурнасьці ў нашым культурным жыцьці. Дык варочацца да п. „Рэцэнзара“ ізноў—ня будзем.

---

## Кнігапіс.

**St. Hrynkiewič:** Arlanio. Wyd. „Bieł. Krynicy“. Вільня. 1927. Стар. 51 у 16-о (мал. фармату). Цана 30 гр.

Вельмі добра, што „Bieł. Kryniса“ зрабіла адбітку гэтага твору Ст. Гр. У ім рэальна і разам з ідэйнымі тэндэнцыямі, пры гэтым з талентам намалявана жыцьцё малога сіратыхлапчука--„арляняці“, што, ня гледзячы на сваё найнегаднейшае палажэньне, найменей думае аб сваім жыцьцю, але рупіцца аб справах грамадзкіх і долі свайго беларускага народу.

Гэта адно з тых „арлянят“, каторых беларускі рух нарадзіў тысячы. Апавяданьне напісана жывой, харошай і, што асабліва трэба падчыркнуць, даволі чыстай беларускай мовао. Ст. Гр. належыць да тых нямногіх у нас пісьменьнікаў, што працуюць над чысьцінёю свае мовы і дайшлі ўжо ў гэтым значных рэзультатаў.

**Альфонс Додэ:** Сэкрэт дзядзькі Карніля і іншыя францускія творы ў перакладзе. Вільня. 1927. 57 стар. у 16-о. Цана 30 гр. Першае апавяданьне пераклаў **Я. Ц.**; „Вярнуўся„ Гюі дэ Мопасана і „Паводка“ Эміля Золя пераклаў **Л. М.** У той час як пераклад Я. Ц. вельмі добры, дык пераклад Л. М. зусім нягодны. Мы ня ведаем, ці добра Л. М. знае францускую мову, але беларускую ён знае вельмі блага. Можна яшчэ ня дзівіцца, што гэткія пераклады друкуюцца ў такой газэце як „Сялянская Ніва“..., але што з іх робяць яшчэ адбіткі, дык чыстая дзіва. Кніжка шкодная, бо ня толькі мае месцы з незразумелым значэньнем, але сваёй нягоднай мовао будзе псаваць мову чытароў.

**Янка Купала:** Паўлінка, сцэны з шляхоцкага жыцьця ў 2-х актах. Выданьне другое. Выдавец І. Мятла, стар. 61 у 16-о. Цана 70 гр., з перасылкай 85, упісанай (заказной) перасылкай 1 зал. 15 гр.

**Iakub Kołas i Taras Hušča:** Prapaй čaławiek, Niomnaй dar, Taйstoje palena. 48 стар. у 8-о. Цана 70 гр.

**Паводле Іоана сьв. Эвангельле.** Стар 62 у 16-о.

**Ад. Рэд:** Просім усе выдавецтвы прысылаць для агляду ў „Род. Гоні“ свае выданьні.

## Дасталі падпіску

ад Грам. Грам.: Т. Трызны 10 зал., Пётры Русака і С. Любіч-Маеўскага па 8 зал., Ключановіча 5 зал.

Ад Гуртка Т-ва Беларускае Школы ў Падолянах, Пракопа Язэпчука, Ів. Канкаловіча, Я. Самахвала, Гуртка Т-ва Беларускае Школы ў Востраве, бібліотэкі Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы—па 4 зал.

Ів. Патаповіча 3 зал. 50 гр., Ал. Жыўлюка 75 гр.

І. Цыўнеля, Уладзімера Каляды, Він. Кірэя, Аляксандра Дылько, Мікалая Ляха, Аркадзя Сьвірыдонава, Язэпа Баўтрукевіча, Сьцяпана Букі, Марты Цьвердахлебавай, Янкі Дарашкевіча, Аляксея Паўлюсюка, Сяргея Корчыка, Васіля Ката, Паўла Тура, Міхала Хруцкага, Аляксандра Пяткевіча, Антона Яроміча, Баляслава Волата, Уладзімера Храноўскага, Міхала Марчэні, Т. Каласоўскага, Мацея Апанасевіча, Гуртка Т-ва Беларускае Школы ў Скідалі, Сымона Рэдзькі, Янкі Тарыкава, Язэпа Санчука, Азераўскага Гуртка Т-ва Беларускае Школы (В. Піліповіча), Пётры Крука, С. Мазурка, Аляксандра Скрабука, Беларускае Гімназыі ў Клецку, Міхала Баравіка, Я. Германюка, Уладыслава Янкоўскага, Ю. Мацука, Лявона Лакатомскага, Народнага Дому Т-ва Беларускае Школы ў Лідзе, Івана Грушы, Аляксандра Макарэвіча, Філярэта Клаўсуця, Яна Лойкі, Сьцяпана Галаскова, Васіля Саўчыца—па 2 зал.

(Далей будзе).

Сябры Т-ва Беларускае Школы могуць падпіску на „Родныя Гоні" перадаваць Управам сваіх Гурткоў для перасланьня грошы ў Рэдакцыю. Гэтак абыйшлося-б перасыланьне грошы таней і часу меней было-б страчана.

Выпісуючы кнігі, можна кніжкі „Родных Гоняў" выпісаваць з усіх беларускіх кнігарняў.

## ЗЬМЕСТ.



Выдавец-Рэдактар: Вера Дзегцяранка.

Беларуская друк. ім. Фр. Скарыны. Вільня, Людвісарская 1.

